ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 17 27 красавіка 1995 г. Выдаецца з 1955 г.
(2419) Цана 100 рублёў.

ПУНКТ ПОГЛЯДУ

## ФІЛАСОФІЯ ПАРТЫЗАНСКАЙ ВАЙНЫ

**(ДА ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ НАД ФАШЫСЦКАЙ ГЕРМАНІЯЙ)**

Наступіў, нарэшце, 1995 год, і хутка ўсе мы будзем адзначаць вялікую дату -- пяцьдзесят год з дня перамогі над германскім фашызмам. Дата сапраўды вялікая, і адзначана яна будзе ва ўсім свеце, бо з фашызмам ваявала ўсё прагрэсіўнае чалавецтва. Ваявала і перамагло, але не да канца: фашызм таксама аказаўся не толькі лакальнай германскаю з'явай. Вось нават цяпер, праз палову стагоддзя, ён зноў паднімае галаву, на гэты раз ужо з зусім процілеглага кірунку. Вайна была сусветнай, але кожны народ і кожная краіна ўдзельнічалі ў ёй па-свойму, у адпаведнасці з уласным геапалітычным становішчам і сваім нацыянальным характарам. Што характар гэты меў не апошняе значэнне, выразна бачылася ўжо тады, варта толькі ўспомніць, напрыклад, і параўнаць, як сустрэлі нямецкую акупацыю палякі і як -- чэхі. Тое ж можна было назіраць і на тэрыторыі былога СССР. Кожная з нацыянальных рэспублік удзельнічала ў вайне па-рознаму, хоць і ваявала з агульным праціўнікам. Агульнасць праціўніка надавала, зразумела, і пэўныя агульныя рысы самой вайне, і пакольці праціўнік нёс на сваіх штыках нацыянальнае заняволенне аж да адкрытага генацыду, то і ўзброенае супраціўленне яму насіла пераважна характар нацыянальна-вызваленчай вайны.

Але ў чыстым выглядзе такою вайна гэта была, можа быць, толькі для Расіі. З расійскага пункту гледжання, яна сапраўды магла быць названа Вялікай Айчыннай, па аналогіі з вайной 1812 года. І то толькі тады, калі рускі народ зразумеў, што справа ўжо ідзе аб існаванні яго як незалежнага народа, і калі з нявераподнымі ахвярамі і не без дапамогі марозу фашысцкая армада была спынена перад самымі сценамі Масквы. Сцвярджэнне афіцыйнай камуністычнай гістарыяграфіі, што, маўляў, вайна была за агульную сацыялістычную айчыну, за заваёвы Кастрычніка, за вялікі Саюз і ідэі марксізму-ленінізму, ёсць звычайная прапаганда. Прапаганда таго ж самага кшталту, што прагудзела ўсе вушы народу яшчэ ў перадваенныя часы, успомніць хаця б вядомую кіналенту "Если завтра война" з аднайменнаю песняй. З якой недаўменнем горыччу ўспаміналі мы, маладзенькія салдаты-добраахвотнікі, той кінафільм і тую песню ў першыя жахлівыя месяцы рэальнай вайны, месяцы бязглуздага хаосу і ганебных уцёкаў аж да самае Масквы! Тыя самыя месяцы, калі наша родная Беларусь была вераломна кінута на волю лёсу, гарэлі яе безабаронныя гарады, і фашысцкія лётчыкі з паляўнічым азартам ганяліся нават за паасобнымі мірнымі бежанцамі. Ужо тады прыходзіла часам у галаву крамольная думка, што Беларусь адыгрывае для Расіі ролю толькі нейкага ваеннага палігона або плацдарма, які без жалю можна кінуць пры адступленні і зноў бесцырымонна выкарыстаць, калі ўдасца пайсці наперад. Тая ж самая, зрэшты, роля прадпісвалася і іншым рэспубліканцам. Пра якое б там ні было маральна-палітычнае адзінства Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і гаварыць не даводзіцца: яно развалілася, як картачны домік, разам з Саюзам у першыя ж месяцы вайны, і кожнай рэспубліцы ў зоне ваенных дзеянняў прыйшлося выбірацца з бяды на свой страх і рызыку.

Калі Расія змагла яшчэ неяк процістаяць нямецка-фашысцкай навале, абапіраючыся на армію і, так бы мовіць, на рускую ідэю, што дало ёй магчымасць, хоць і з неймавернымі высілкамі, але апраўвіцца ад ганебных паражэнняў у першай палове вайны, на Беларусі падзеі развіваліся куды больш трагічна. Чырвоная Армія камплектавалася прадстаўнікамі розных рэспублік і нацыянальнасцяў, прычым рабілася гэта так, што, напрыклад, беларусу прыходзілася служыць дзенебудзь на Далёкім Усходзе, а ў Беларусь накіроўваліся прызыўнікі з Каўказа альбо з Сярэдняй Азіі. Рабілася тое наўмысна, каб падавіць нацыянальную свядомасць нярускіх народаў Саюза пры канцэнтрацыі функцый камандавання ў расійскіх руках (статуты, загады, каманды і ўвогуле ўсё армейскае жыццё абслугоўвалася, напрыклад, выключна рускаю моваю).

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ВЯЛІКОДНАЯ ВЫСТАВА ПІСАНАК



## "СВЯТА ВЯЛІЧКА — З ЧЫРВОНЫМ ЯЕЧКАМ"

**"Хрыстос уваскрэс!" -- гучыць на Беларусі і па ўсім хрысціянскім свеце гэтая радасная вестка. Прымеркавана да Вялікадня, наладжана ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі выстава -- "Вялікдзень. Традыцыі і мастацтва". Упершыню ў нашай краіне выстаўляецца шматлікі збор дэкаратыўных пасхальных яек. Наш сучасны глядач ці не першы раз пабачыў такія яйкі ў тым жа музеі пяць гадоў таму на выставе "Біблія". Але тады велікодных яек было паказана тры ці чатыры, а цяпер іх -- сотні ў вялікай зале. І гэта так прыгожа! Гэта цэлы феерверк фарбаў, фантазіі, сюжэтаў, вобразаў, стыляў, манераў, арыгінальнасці, густу, хараства, майстэрства... Ёсць роспіс традыцыйны і авангардны. Ёсць пісанкі, крашанкі, скрабанкі, выклеянкі, маляванкі з Польшчы, Славакіі, Украіны, Беларусі. Найбольш -- творы нашых сучасных майстроў.**

**Гледзячы на вышукана стрыманую чорна-белую гаму ўзораў аўтэнтычных маляванак з Гродзеншчыны, успамінаеш, што ў старажытнасці гэтыя мясціны былі ў абшарах Чорнай Русі. Ці няма тут нейкага рэха? Як у казцы, дзе ўспамінаецца чароўнае пакаці-яечка, на паверхні пісанак майстрыхі з Віцебска бачыш краявіды нашых гарадоў са знаёмымі архітэктурнымі абрысамі -- Мінск, Віцебск, Заслаўе... І так тонка яны выпісаныя!**

(Заканчэнне на 8-й стар.).

**БАЛЮЧЫ ЛЁС Тамары ЦУЛУКІДЗЕ**



## УСЯГО АДНО ЖЫЦЦЁ

Тамара Георгіеўна Цулукідзе... Пасля яе ў лаканічным даведніку "Беларускія пісьменнікі" засталася ўсяго толькі кніжная старонка. Ды на ёй не столькі пералік зробленага, колькі хроніка жыцця. Доўгага, даўжынёю 87 гадоў. А што да зробленага, то аб ім -- у наступным абзацы: "Літаратурную працу пачала з рэцэнзій і артыкулаў пра тэатр у 1933 годзе ў рускай і грузінскай перыёдыцы. З 1959 года выступала ў беларускім друку. Пісала на рускай, беларускай і грузінскай мовах. Выдала кнігі для дзяцей "Тэатр лялек у школе", "Калі ўзнімаецца заслона", "Да дзяцей прыйшоў важаты", зборнікі пазнавальных нарысаў "Блакітны факел", аднаактовых п'ес -- "Тваё сумленнае слова". У Тбілісі выйшла кніга мемуараў "Усяго адно жыццё" і напісаны па-грузінску зборнік апавяданняў "Вяртанне". І яшчэ: "Пераклала з грузінскай мовы на беларускую раман Ц.Данжашвілі "На Алазані" (з А.Пальчэўскім, 1959), асобныя творы іншых празаікаў".

Многа гэта ці мала?.. І ці варта рабіць тут нейкае вымярэнне... Вось і кнігу ўспамінаў, сапраўдны фаліянт памерам амаль у 24 аркушы, Тамара Георгіеўна назвала -- "Усяго адно жыццё". Як быццам хацела падкрэсліць, што пражыла звычайнае жыццё, нічым не адметнае, традыцыйнае. Жыццё як усе жыцці. І хто помніць Тамару Георгіеўну, пацвердзіць: жыла яна сціпла, як быццам не хацела вылучацца. Ды не заўжды атрымлівалася. Хутчэй - зусім не атрымлівалася. Наадварот... Тамару Георгіеўну сярод астатніх вылучаў нават ужо адзін толькі знешні выгляд.

На жаль, мне пашчасціла сутыкнуцца з лёсам гэтай цікавай жанчыны не напрамую. Алесь Пальчэўскі, яе муж, паміж першай і другой адсідкамі ў ГУЛАГу працаваў настаўнікам у маім родным мястэчку -- у Пухавічах. Будучы далёка за межамі Беларусі, я наважыўся напісаць нарыс пра пісьменніка. Алеся Восіпавіча ўжо не было сярод жывых. Нехта з маіх мінскіх карэспандэнтаў параіў звярнуцца да Тамары Георгіеўны. Так і зрабіў. Нягледзячы на ўзрост, жонка Алеся Восіпавіча адгукнулася. Былі лісты. Тамара Георгіеўна даслала некалькі кніг з хатняй бібліятэкі, здымак мужа. Прайшоў час -- я напісаў невялікі нарыс пра пухавіцкі перыяд у жыцці Пальчэўскага. Але Тамары Георгіеўны ўжо не было сярод нас. З таго часу не пакідае мяне адчуванне нечага ўпушчанага, не ўбачанага ў пару. Таму і цікаўлюся, распытваю сучаснікаў Алеся Пальчэўскага і Тамары Цулукідзе, таму чытаю і перачытваю імі напісаныя старонкі. Хачу разгледзець і зразумець іх светласць.

Дарэчы, "з яснай, усмешлівай душою" -- гэтая характарыстыка належыць самой Тамары Георгіеўне, і адрасаваная яна Алесю Восіпавічу.

(Заканчэнне на 6-й—7-й стар.).

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*АФІЦЫЙНА*

### У МАСКВУ — НА СВЯТА ПЕРАМОГІ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўзначаліць афіцыйную дэлегацыю нашай краіны, якая будзе ўдзельнічаць у святкаванні 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне ў Маскве. Дэлегацыя адправіцца туды па запрашэнню ўрада Расійскай Федэрацыі.

Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма, у састаў дэлегацыі ўвойдуць кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Леанід Сініцын, міністр абароны Анатоль Кастэнка, першы намеснік міністра замежных спраў Валерый Цапкала, а таксама асобы, якія іх суправаджаюць.

*ПРЭЗІДЭНТ І ВЕТЭРАНЫ*

### САРДЭЧНАЕ ВІНШАВАННЕ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прыняў 19 красавіка групу ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і ўручыў ім медалі "50 гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 гг.".

Закрануўшы злабадзённую тэму эканамічнага крызісу, Аляксандр Лукашэнка зноў падкрэсліў сваю цвёрдую пазіцыю на ўсебаковае збліжэнне з Расійскай Федэрацыяй. Ён сказаў, у прыватнасці, што сённяшні ўзровень адносін паміж брацкімі дзяржавамі мае ўжо якасна новы характар, які прадугледжвае раўнапраўныя партнёрскія сувязі. "Мы знімаем усякія пытанні па ваенных аб'ектах Расіі на тэрыторыі Беларусі, але просім стварыць для нашых прадпрыемстваў такія ж эканамічныя ўмовы, як у Расіі".

Прэзідэнт заявіў ветэранам, што на працягу апошніх трох месяцаў курс валют у рэспубліцы стабільны, а ўзровень інфляцыі зніжаецца. Ён таксама адзначыў, што 80 працэнтаў беларускай прадукцыі пастутае на рынак Расіі, што дало магчымасць зберагчы высокакваліфікаваных спецыялістаў.

Аляксандр Лукашэнка разам з ветэранамі выказаў шкадаванне аб распадзе Савецкага Саюза, які яны, не шкадуючы жыцця і здароўя, абаранялі ад ворагаў. Прэзідэнт сардэчна павіншаваў былых франтавікоў, партызан і падпольшчыкаў рэспублікі з надыходзячым юбілеем і запэўніў, што дзяржава прыкладзе максімум намаганняў, каб Дзень Перамогі стаў усенародным святам.

*МІЖНАРОДНЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ*



У Мінску адбылася міжнародная канферэнцыя "Інтэрнет у Беларусі. Выкарыстанне камп'ютэрных сетак у адукацыі". Ініцыятарам яе правядзення выступіла інфармацыйная служба пры пасольстве ЗША. Сярод удзельнікаў канферэнцыі былі спецыялісты па камп'ютэрных сетках з ЗША, Беларусі, Украіны, Расіі, Польшчы, Вялікабрытаніі. На канферэнцыі закраналіся праблемы прымянення Інтэрнет у школьнай адукацыі, навуцы, медыцыне і іншых галінах ведаў.

НА ЗДЫМКУ: пасол ЗША ў Рэспубліцы Беларусь Кенет ЯЛОВІЦ (злева), прарэктар БДПА Барыс ХРУСТАЛЁЎ і намеснік міністра адукацыі і навукі Васіль СТАЎРОЎ у час канферэнцыі.

*ПЕРАДВЫБАРЧАЯ КАРУСЕЛЬ*

***

12 супрацоўнікаў КДБ Беларусі вылучылі свае кандыдатуры ў састаў будучага парламента. Як заявіў намеснік старшыні КДБ Іван Юркін, "па сваіх асабістых, дзелавых і маральных якасцях гэта дастойныя людзі". І першы з дастойных у спісе кандыдатаў сам старшыня КДБ Уладзімір Ягораў.

***

Па словах кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіла Сазонава, у касцёлах на Беларусі ідзе агітацыя галасаваць за БНФ. "Прэзідэнцкая адміністрацыя не збіраецца заплюшчваць вочы, і калі такое становішча будзе захоўвацца і надалей, то будуць прымацца адпаведныя меры. Прынамсі, большасць каталіцкіх святароў -- не грамадзяне Беларусі".

***

Кожнаму кандыдату ў дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі на перадвыбарчую агітацыю выдзелена па 600 тысяч рублёў. Гэтыя сродкі будуць выдаткоўвацца на выданне плакатаў з біяграфіямі кандыдатаў, заклікаў, лісткоў, надпісаў.

***

Паводле папярэдніх звестак, у Беларусі зарэгістравана 2 360 кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета. Прыкладна 170 кандыдатам адмоўлена ў рэгістрацыі. Асноўныя прычыны адмоў -- несапраўдныя подпісы ў падпісных лістах, неправамоцныя сходы па вылучэнню кандыдатаў у дэпутаты, адсутнасць пярвічных арганізацый партый у акругах, дзе вылучаюцца кандыдаты ад партыі, і г.д.

***

Пасля рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты ў некаторых выбарчых акругах значна парадзелі шэрагі прэтэндэнтаў на месца ў Вярхоўным Савеце. У Антопальскай выбарчай акрузе N 17 застаўся ўсяго адзін кандыдат, у Міёрскай N 48 -- два, у Любанскай N 132 -- тры. Рэкордная колькасць зарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты парламента ў Захар'еўскай акрузе N 239 у Мінску -- аж 23.

***

Не галасаваць за тых, хто будзе абяцаць "залатыя горы" і "райскае жыццё" ў бліжэйшай будучыні, заклікаў у сваёй першай лістоўцы Усебеларускі клуб выбаршчыкаў. Клуб ужо мае свае аддзяленні ў 42 раёнах Беларусі. Арганізацыя ставіць мэту -- збор інфармацыі аб кандыдатах у дэпутаты, іх грамадзянскай пазіцыі і палітычных поглядах і азнаямленне з гэтай інфармацыяй выбаршчыкаў. УКВ будзе займацца аналізам магчымасцей кандыдатаў, іх кампетэнтнасці, прафесіяналізму.

*ПАЛІТЫЧНЫЯ КУЛУАРЫ*

### ЦЕНЯВЫ КАБІНЕТ

Рух за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць, які вельмі лёгка зблытаць з партыяй камуністаў, абмеркаваў склад "ценявога" кабінета ўрада.

Як паведаміла агенцтва РІД, прэм'ер-міністрам у варыянце Руху павінен быць Вячаслаў Кебіч, ягоным першым намеснікам -- Анатоль Малафееў. У віцэ-прэм'еры трапляюць Генадзь Данілаў, Генадзь Карпенка, Віктар Чыкін, Антон Юнцэвіч. "Сілавымі міністрамі" рэкамендуюцца: КДБ -- Віктар Кучынскі, Мінабароны -- Павел Казлоўскі, МУС -- Канстанцін Платонаў. Ведамства замежных спраў -- за Пятром Краўчанкам.

*НЕ ДАГНАЦЬ, НЕ СПЫНІЦЬ*

### ЗАРПЛАТА І ЦЭНЫ

Як сведчаць даныя Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, у дзяржаўным, кааператыўным, камерцыйным гандлі і на гарадскіх рынках цэны на асноўныя харчовыя тавары ў студзені--лютым 1995 года ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года змяніліся наступным чынам:

мяса і птушка -- павелічэнне на 2 058 працэнтаў, каўбасныя вырабы -- на 1 792, малочныя прадукты -- на 3 924, масла -- на 2 626, алей -- на 1 903 працэнты, яйкі -- на 2 518, хлеб і хлебапрадукты на 3 640, мука -- на 2 080, крупы -- на 1 941, цукар -- на 2 315, бульба -- на 2 271, агародніна -- 2 316 працэнтаў.

*БЕЛАРУСЬ -- РАСІЯ*

### ПА ВУШЫ Ў ДАЎГАХ

Запазычанасць Беларусі за расійскі газ, па даных на 13 красавіка 1995 года, складае 3 трыльёны 093 мільярды 303 мільёны беларускіх рублёў, тады як у сярэдзіне лютага бягучага года яна ацэньвалася ў 2 трыльёны 625 мільярдаў 317 мільёнаў рублёў.

Запазычанасць за мазут перавышае на сённяшні дзень 284 мільярды беларускіх рублёў. Запазычанасць беларускіх спажыўцоў за электраэнергію, што пастутае з Расіі, складае 317 мільярдаў 536 мільёнаў беларускіх рублёў.

*ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ БНФ*

### ПУТЧ МЯСЦОВАГА ЗНАЧЭННЯ

Лідэр апазіцыі БНФ Зянон Пазьняк правёў прэс-канферэнцыю, якая была цалкам прысвечана падзеям, што адбыліся ў Авальнай зале Дома ўрада ноччу з 11-га на 12-га красавіка. Каменціруючы тое, што здарылася, Зянон Пазьняк назваў гэта путчам, у выніку якога сілай былі адстаўлены ўбок апазіцыйныя дэпутаты Вярхоўнага Савета. Далей ім было зазначана, што цераз парламент прайшлі рашэнні, якія карэнным чынам супрацьстаяць нацыянальным інтарэсам Беларусі.

Апазіцыя БНФ мае намер інфармаваць аб падзеях, што здарыліся ў ноч з 11-га на 12-га красавіка, парламентарыяў краін Еўропы, адпаведныя міжнародныя арганізацыі.

*НОВЫЯ ВЫРАБЫ*



Выпуск электронных аўтаматычных тэлефонных станцый "Квант" асвоіла Мінскае вытворчае аб'яднанне вылічальнай тэхнікі. У розных рэгіёнах СНД ужо ўведзена ў эксплуатацыю 66 такіх станцый, цяпер вядуцца работы па запуску яшчэ 64-х. Аб'яднанне пачало таксама і выпуск лічбавай АТС "Бэта", якая адпавядае сучаснаму ўзроўню. Першым сярод айчынных вытворцаў сродкаў сувязі аб'яднанне атрымала на гэтыя станцыі сертыфікат адпаведнасці Міністэрства сувязі Расійскай Федэрацыі.

Новы падыход намеціўся і ў выпуску традыцыйнай прадукцыі -- вылічальнай тэхнікі. Сумесна з фірмай ІВМ асвоена вытворчасць ЭВМ агульнага прызначэння. У комплексе з сістэмным сеткавым і прыкладным праграмным забеспячэннем яны знойдуць шырокае прымяненне ў сферы народнай адукацыі, а таксама ў вырашэнні розных прафесійных задач.

НА ЗДЫМКУ: супрацоўнік аддзела рэкламы аб'яднання вылічальнай тэхнікі Ірына ДЗЯМЕШЧАНКА дэманструе новыя мадэлі персанальных камп'ютэраў.

*"Беларусь, аднак, будзе. Але не цяпер. Потым, значна пазней. Пакуль выгарыць, так сказаць, полымя няшчаснай рэвалюцыі... Ардэнаносныя цёткі і дзядзькі ідуць на пенсіі. Добры знак. Іхнія дзеці не памятаюць немца з аўтаматам, Сталіна ведаюць па выпадковай фатаграфіі, але не надта далёка адкаціліся ад бацькоў, не далей інерцыі зменнага часу. Яблык ад яблыні... Унукі пашыраць рысу таго кола. Яны мала-памалу набліжаюцца. Звярніце ўвагу: не пырскаюць сліною на Беларускую Зямлю, не бегаюць па ёй з гікам ды пад чырванасцяжным "кумачом". Няхай тыя носьбіты памяці аб КПСС нацешацца ілюзіямі. Вольнаму воля, шалёнаму поле!*

*Падкопы супроць беларушчыны працягнуцца недзе да дзве тысячы дзесятага года. Столькі адпусціць прырода энергіі змагарам за аднаўленне СССР. Перамагчы ў дэмакратычных выбарах усё роўна не перамогуць".*

*Сакрат ЯНОВІЧ, пісьменнік.*

*ЭНЕРГЕТЫКА І ЭКАЛОГІЯ*

### З ДАПАМОГАЙ ІТАЛЬЯНЦАЎ

Шэсць беларускіх прадпрыемстваў розных галін народнай гаспадаркі -- ВА "Азот", АТ "Барымак" і "Керамін", мінскія заводы шасцерняў і радыятарны, а таксама Барысаўскі крыштальны завод -- прайшлі абследаванне ў рамках праекта "Беларусь: энергетычныя і экалагічныя аудзіты прамысловых прадпрыемстваў". Абследаванні праводзіліся спецыялістамі трох італьянскіх фірм "СМП", "ІНЕА", "ІРМ" і фінансаваліся італьянскім міністэрствам фінансаў праз Траставы фонд. Распрацаваны шэраг мерапрыемстваў па эканоміі энергіі і паляпшэнню экалогіі гэтых вытворчасцей.

*САЮЗ ПАЛЯКАЎ*

### АБЯЦАНКА-ЦАЦАНКА

"Будзе жыць беларуская мова -- будзе жыць і польская". Плакаты з такімі лозунгамі трымалі ўдзельнікі мітынгу, які адбыўся 19 красавіка ў Гродне па ініцыятыве Саюза палякаў Беларусі.

Абмяркоўвалася праблема будаўніцтва польскамоўных школ у нашай краіне. Адпаведныя абяцанні даваліся папярэднім урадам, аднак урад памяняўся, і цяпер нічога не абяцаюць з-за дэфіцыту грошай. Па гэтай прычыне на Гродзеншчыне ніяк не дабудуюць шэраг ужо даўно закладзеных адукацыйных установ.

*Франук ГРЫШКЕВІЧ*

*ЗАСЛУГОЎВАЕ НАШАЙ ПАМЯЦІ*

# "У МЯНЕ БЕЛАРУСЬ ЁСЦЬ АДНА"



Жыве на Смаргоншчыне ў Беларусі былы выпускнік Віленскай беларускай настаўніцкай семінарыі, настаўнік-пенсіянер Віктар Піліпавіч Казлоўскі. За яго плячыма -- доўгае і нялёгкае жыццё, бо і Віктара Піліпавіча, на жаль, не абмінуў сівер сталінскіх рэпрэсій. Вярнуўся на радзіму аж у 1957 годзе. Праўда, памяць захавала шмат, і ў першую чаргу вобраз беларускага паэта, крытыка, публіцыста і выкладчыка Франука Грышкевіча. Спадар В.Казлоўскі добра запомніў словы паэта: "Я -- Франук Грышкевіч, а не Алесь Кучар, хачу напісаць гісторыю беларускай літаратуры".

Напісаць праўдзівую гісторыю беларускай літаратуры Франуку Грышкевічу не ўдалося. У канцы 1944 года ён быў арыштаваны органамі НКВД і пасаджаны ў мінскую турму. Тут і адбылася апошняя сустрэча семінарыста В.Казлоўскага са сваім настаўнікам Ф.Грышкевічам. Допыты праводзіў сам Цанава. Яны былі цяжкія і здзеклівыя. Ідучы на чарговы, Франук Грышкевіч выскачыў праз акно на вуліцу і... забіўся.

Нарадзіўся ён у 1906(?) годзе ў мястэчку Сухаволі Сакольскага павета на Беласточчыне. Рана застаўся без бацькоў. Спачатку вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. А пасля яе заканчэння (1926 год) нелегальна перайшоў польска-чэшскую граніцу і паступіў на літаратурны факультэт Карлавага універсітэта ў Празе, які закончыў са ступенню доктара філасофіі.

Знаходзячыся ў Чэхаславакіі, Франук Грышкевіч вельмі актыўна супрацоўнічаў з часопісам "Slovansky prehled". Друкаваў на яго старонках рэцэнзіі на мінскія выданні, расказваў пра жыццё ў БССР.

Пасля вучобы ў Празе ён вярнуўся ў Вільню. Служыў у 6-м палку польскіх легіёнаў, працаваў у ротнай канцылярыі пісарам, нават быў беспрацоўным...

У 1939 годзе, калі Чырвоная Армія ўвайшла ў Вільню, стаў супрацоўнічаць з часовымі савецкімі ўладамі, узначальваў беларускія школы Віленскай школьнай акругі.

Калі пачалася вайна, Франук Грышкевіч застаўся ў Вільні. Акупацыйныя ўлады далі дазвол на функцыянаванне Віленскай беларускай гімназіі. Дырэктарам яе быў прызначаны Ф.Грышкевіч, дый выкладчыкі гімназіі засталіся ўсе тыя, хто працаваў раней. Вось што ўспамінае пра свайго выкладчыка былая гімназістка Вольга Мароз-Давідовіч з Мінска: "Гэта быў чалавек з магутным інтэлектам, высокай культурай і адначасова сціплы, надзіва лагодны. Да таго ж ён быў паэтам, ведаў некалькі замежных моў і шчыра кахаў сваю Бацькаўшчыну. Выкладаў у нас цудоўны і цікавы прадмет -- сусветную літаратуру. Яго ўрокі былі незвычайнымі, бо ніякімі канспектамі і планамі ён ніколі не карыстаўся, у кніжкі не заглядваў, а толькі расказваў і расказваў -- ад пачатку ўрока і да самага канца. Вучні сядзелі, як ашаломленыя, не прапускаючы ніводнага слова. Мы глядзелі на выкладчыка, як на Бога. Калі звінеў званок, мы прасілі яго: "Заставайцеся з намі яшчэ на перапынак!" Выкладчык радасна ўсміхаўся і казаў: "Гэта для мяне найлепшая ўзнагарода".

Жывуць яшчэ, дзякуй Богу, і ў Польшчы беларусы, якія добра ведалі Ф.Грышкевіча. З Сопата, напрыклад, адгукнуўся Мацей Канапацкі. "...Вы цікавіцеся маім настаўнікам, дырэктарам Беларускай гімназіі ў Вільні Францішкам Грышкевічам? Гэтае зацікаўленне мае творчы аспект. І таму вялікі Вам дзякуй ад колішняга вучня гэтага цудоўнага чалавека, якога давялося, перш за ўсё пашчасцілілася, мне пазнаць. Кожны раз, калі сустракаюся са сваім сябрам, таксама слухачом на Вострабрамскай вуліцы (здаецца, так яна называлася) Антосем Алькснінім, мы ўспамінамі ўшаноўваем памяць, самую светлую памяць пра Ф.Грышкевіча. Праўда, гады два ці тры мы знаходзіліся ў Беларускай гімназіі з Антосем, але наш дарагі настаўнік пакінуў прыкметны след, застаўся ў памяці назаўсёды.

Мы слухалі лекцыі пра беларускую літаратуру і стылістыку. Кожная лекцыя Франука Грышкевіча была незвычайнай, сумленна прачытана. Наш дарагі выкладчык быў проста закаханы ў гэтыя прадметы. Яшчэ сёння ў памяці гучаць словы Цёткі голасам Грышкевіча:

**Хацела б быць зярном пшаніцы,**<br>
**Упасць на ніўкі вёскі,**<br>
**Зазалаціцца без мятліцы,**<br>
**Даць хлеб смачнейшы трошкі...**

Наш настаўнік быў сярэдняга ўзросту. Яго галава была крыху пахілена ў правы бок. Калі нам чытаў лекцыю, меў звычай час ад часу трымаць пальцы правай рукі каля вуснаў (вось быццам зараз яго бачу...).

Аднойчы пазнаёміў ён нас з уласнай біяграфіяй. Адно толькі я запомніў: Франук Грышкевіч гаварыў, што ў польскай турме білі яго ланцугамі...

Неяк чуў я па "Свабодзе" радыёперадачу пра Франука Грышкевіча. Яна была прысвечана яго заўчаснай трагічнай смерці. Пазней нешта занатаваў, аднак зараз адшукаць у сваім хатнім архіве ніяк не магу... Ад шчырага сэрца жадаю Вам поспехаў у вывучэнні біяграфіі і творчага шляху прафесара Ф.Грышкевіча. Ён заслугоўвае вечнай памяці ў гісторыі...".

Франук Грышкевіч быў не толькі добрым педагогам, але і таленавітым паэтам, перакладчыкам, крытыкам і публіцыстам. Першыя яго вершы былі апублікаваны ў 1924 годзе ў часопісе "Студэнцкая думка" і ў газеце "Крыніца". Выступаў таксама з вершамі ў "Сялянскай ніве", "Беларускай крыніцы", "Родных гонях" і ў іншых тагачасных беларускіх выданнях.

Першыя паэтычныя радкі Франука Грышкевіча былі напісаны пад вялікім уплывам каталіцкага асяроддзя. Шмат твораў яго было прысвечана беларусам-католікам А.Станкевічу, К.Сваяку, В.Гадлеўскаму, А.Клімовічу і іншым вернікам.

Узлёт паэтычнай творчасці Франука Грышкевіча адносіцца да 1927 года, калі ў Вільні выходзіць яго першы паэтычны зборнік "Веснавыя мэлёдыі". Вершам, якія яго склалі, уласцівы тонкі лірызм і філасафічнасць, а таксама вернасць свайму народу. Праўда, у многіх вершах адчуваецца настрой песімізму, аўтара непакоіць будучыня Бацькаўшчыны. Адначасова паэт пераканана сцвярджае:

**Ах, пакінь! Ах, пакінь маладога,**<br>
**Ты пагана й звадліва мана,**<br>
**Не пайду!... У мяне ёсьць дарога,**<br>
**У мяне Беларусь ёсьць адна!**

Пісаў Франук Грышкевіч і празаічныя творы. У 1927 годзе ў "Беларускай крыніцы" былі апублікаваны яго апавяданні "Сьвяты Сыльвестар", "Куцця ў чужыне", "У калядны вечар".

Выступаў Ф.Грышкевіч у друку і як крытык і перакладчык. Ім напісаны цікавыя рэцэнзіі на кнігі Н.Арсенневай, У.Казлоўшчыка, Я.Коласа, А.Навіны, К.Езавітава, М.Зарэцкага, К.Чорнага, М.Піятуховіча, В.Адважнага, Х.Ільяшэвіча, Р.Мурашкі, М.Багдановіча, М.Ільяшэвіча і многіх іншых. Перакладаў з польскай, чэшскай, славенскай, украінскай і нямецкай моў на беларускую.

Вось такі быў педагог і літаратар з Беласточчыны Франук Грышкевіч. Вельмі хочацца спадзявацца, што прыйдзе час і мы збяром яго літаратурную спадчыну пад адну вокладку.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

## ХРОНІКА МАБ

### СХОД ПОЛЬСКІХ БЕЛАРУСІСТАЎ

У Варшаўскім універсітэце, на кафедры беларускай філалогіі, адбыўся справаздачна-перавыбарчы сход Польскай асацыяцыі беларусістаў, якая налічвае звыш 140 навукоўцаў, перакладчыкаў, грамадскіх дзеячаў. Пачаўся ён дакладам прэзідэнта МАБ Адама Мальдзіса пра стан сучаснай беларусістыкі. Са справаздачным дакладам выступіў прафесар Аляксандр Баршчэўскі. Ён гаварыў пра здабыткі польскіх сяброў беларускай культуры. Асабліва прыкметныя яны ў Любліне. Тут у двух універсітэтах (каталіцкім і імя Марыі Складоўскай-Кюры) беларускую мову вывучаюць многія студэнты. Нядаўна праведзены Дні беларускай культуры, арганізавана мастацкая выстава. Беларуская тэматыка ўвесь час прысутнічае ў люблінскіх навуковых зборніках. Актывізуецца беларусістыка і ў Ольштыне, Вроцлаве. Аднак дакладчык гаварыў і пра цяжкасці. Найпершая з іх — немажлівасць набыць беларускія навуковыя выданні, падпісацца на мінскія часопісы і газеты. На дзяржаўным узроўні пра гэта ніхто не клапоціцца, а спекулянты бяруць за беларускія кнігі падвойную цану.

Прысутныя выбралі новы склад праўлення (па-ранейшаму яго ўзначальвае Аляксандр Баршчэўскі), 14 дэлегатаў на II Міжнародны кангрэс беларусістаў. Было вырашана ў бліжэйшы час правесці навуковую канферэнцыю "Беларусь--Польшча: учора, сёння, заўтра", а таксама падтрымаць ініцыятыву МАБ аб вылучэнні кандыдатуры Васіля Быкава на Нобелеўскую прэмію.

Закончыўся сход чытаннем радкоў з паэмы Якуба Коласа "Новая зямля", якую перакладае на польскую мову сябра МАБ Чэслаў Сэнюх.

### ДНІ БЕЛАРУСІ Ў БУДАПЕШЦЕ

20--25 сакавіка ў сталіцы Венгрыі прайшлі Дні Беларусі, арганізаваныя Венгерскай асацыяцыяй беларусістаў і студэнтамі беларускага лектарата Будапешцкага універсітэта. Да іх з'явіўся інфармацыйны бюлетэнь "Дзяржаўнасць Беларусі", адкрылася выстава беларускай кнігі "З падстрэшша рук Скарынавых...". 23 сакавіка адбылася вечарына "Гэй ты, гэй Беларусь..." (паводле слоў Янкі Купалы). З дакладам "Дзяржаўнасць Беларусі ўчора і сёння (Беларусь і Вялікае Княства Літоўскае)" выступіў на ёй старшыня ВАБ, загадчык кафедры ўсходнеславянскай і балтыйскай філалогіі Будапешцкага універсітэта Андраш Золтан. Пра вершы паэтаў Венгрыі на беларускай мове гаварыў Мікола Аляхновіч. На беларускай і венгерскай мовах гучалі творы Янкі Купалы, Пімена Панчанкі, Ніла Гілевіча, Алеся Разанава, Ніны Мацяш, Янкі Сіпакова. Іван Гегедзюш, Віёла Дожаі, Гергей Коша выканалі народныя песні "Рэчанька", "Купалінка", "Туман ярам", "Каціласе чорна галка". Былі таксама падведзены вынікі конкурсу-віктарыны "Беларуская загадка".

Венгерскія навукоўцы выступяць на II Міжнародным кангрэсе беларусістаў з пяцю дакладамі.

### "ПОЛАЦКІЯ (СКАРЫНАЎСКІЯ) ЧЫТАННІ"

Міжнародны камітэт беларусістаў далучыўся да падрыхтоўкі "Полацкіх (Скарынаўскіх) чытанняў", якія будуць прысвечаны прабleме "Полацкая зямля як сацыякультурная прастора ўзнікнення і развіцця беларускага этнасу і нацыянальнай дзяржаўнасці" і пройдуць 5--6 верасня ў Полацкім універсітэце (г.Наваполацк). Прадугледжваецца навуковае асвятленне наступных пытанняў: "Вечна жывая спадчына Скарыны", "Полацкая зямля як цэнтр узнікнення і развіцця беларускага этнасу", "Роля Полацка ў станаўленні нацыянальнага гаспадарства", "Полаччына і развіццё навуковай думкі і адукацыі", "Полацкая культура ў кантэксце культуры народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы", "Роля Полацка ў нацыянальным адраджэнні".

Заяўкі на ўдзел у чытаннях можна прысылаць як на адрас Полацкага універсітэта **(211440, г.Наваполацк, вул. Блахіна, 29, кафедра філасофіі і культуралогіі), так і камітэта МАБ (220050, г. Мінск, Рэвалюцыйная, 15).**

### ПАСЯДЖЭННЕ АРГКАМІТЭТА

Парадак работы II Міжнароднага кангрэса беларусістаў, які адбудзецца 16--18 мая ў Мінску, у Доме настаўніка, абмеркаваны на пасяджэнні аргкамітэта. Пачнецца ён 15 мая з прэс-канферэнцыі, адкрыцця выставы, якую рыхтуе Літаратурны музей Беларусі, і міжнароднага бенефісу вядомай спявачкі Таццяны Мархель.

На кангрэс ужо заяўлена звыш 150 дакладаў, паведамленняў і выступленняў з 16 краін свету. Былі названы тэмы навукоўцамі і настаўнікамі з Брэста, Віцебска, Гомеля, Гродна, Наваполацка і нават з Капаткевічаў, Радашковічаў і Светлагорска.

Праграма кангрэса будзе раздадзена ўдзельнікам пры рэгістрацыі.

**Алеся БЕЛАВУСАВА.**



**Гэты прыгожы дом па вуліцы Кірава добра ведаюць многія мінчане розных пакаленняў. Тут з 1936 года размяшчаецца Рэспубліканскі Палац піянераў і школьнікаў.**

**Як і многія дзесяцігоддзі назад, спяшаюцца сюды цяперашнія навучэнцы сталіцы, каб у гуртках, студыях, эксперыментальных лабараторыях займацца любімай справай -- тварыць, выдумваць, спрабаваць свае сілы ў мадэліраванні, рашэнні камп'ютэрных задач і многіх іншых напрамках. Захапленні школьных гадоў і сур'ёзныя заняткі пад кіраўніцтвам вопытных педагогаў у тэматычных гуртках дапамаглі многім былым выхаванцам Палаца піянераў абраць будучую прафесію.**

**У шматлікіх гуртках і студыях Палаца створаны ўсе ўмовы для інтэлектуальнага развіцця дзяцей, задавальнення іх інтарэсаў, схільнасцяў, здольнасцяў.**

**НА ЗДЫМКУ: разнастайныя кампазіцыі ствараюць у гуртку фларыстыкі.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

# ПАКІНУТЫЯ

**У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ МАСТАЦКІМ МУЗЕІ ЎПЕРШЫНЮ АФІЦЫЙНА ВЫСТАЎЛЕНЫ ЦЫКЛ РАБОТ НАРОДНАГА МАСТАКА СССР І БЕЛАРУСІ АКАДЭМІКА Міхаіла САВІЦКАГА "ЧОРНАЯ БЫЛЬ".**

-- Так, гэта першая афіцыйная выстава маіх работ названага цыкла. Замоўчвалі доўгі час не толькі сапраўдныя вынікі чарнобыльскай трагедыі.

Калі выбухнуў рэактар атамнай станцыі ў красавіку 1986 года, я пачаў думаць, як паказаць гэта людзям. Аналагаў у мастацтве не было. Потым прыйшоў да высновы: трэба паказаць вынікі аварыі.

Людзі на гэтай зямлі, нягледзячы на атэістычнае выхаванне, і ў апошнія дзесяцігоддзі жылі паводле хрысціянскага ўкладу. І я ў сваіх работах гэтым карыстаўся. У серыі "Чорная быль" таксама. Возьмем "Апакаліпсіс". Гэта так і адбываецца, як прадказана ў Бібліі, толькі ў іншай форме.

У "Настальгіі" я даю выяву анёла-ахоўніка. Калі чалавека вырваць са звыклых умоў, ён захварэе, загіне. Так і народ. А я мастак і павінен адлюстроўваць жыццё такім, якое яно ёсць, як я яго бачу. Не так, як некаму хочацца.

А "Плач на зямлі"? Зямля ператварылася ў забойцу. Тут яўна прасочваецца думка; людзі, не рабіце зло. "...и сказано им, чтобы они успокоились еще на малое время..." Гэта з Бібліі.

Яшчэ адна работа -- "Крыж надзеі". Дошкамі забівалі вокны не ад злодзеяў. Ад злых духаў.

Калі на чале Савецкага Саюза стаяў Міхаіл Гарбачоў, ён сцвярджаў, што выйсце з крызісу толькі праз эканоміку. Я тады напісаў яму ліст (не думаю, што ён чытаў). А пісаў я, што трэба працаваць з чалавекам, выхоўваць яго. І мастацтва менавіта тая галіна культуры, якая працуе з чалавекам.

Дарэчы, аб выхаванні. У 1919 годзе была падрыхтавана цудоўная праграма школы. Я знаёміўся з ёю. Яна прадугледжвала сапраўднае выхаванне, не проста адукацыю, а менавіта выхаванне чалавека -- навукай і мастацтвам. А ў канцы стагоддзя наша школа, на жаль, дае веды і не дае выхавання.

Сёння чалавек у нас пакінуты. Ніхто не скажа, якое грамадства мы будуем. Некаторыя лічаць -- капіталізм. А я кажу так: адбываецца каланізацыя нашага грамадства. І мастацтва сёння яўна ідэалагічнае -- авангард. Яго апалагеты сцвярджаюць, што авангард лепей, чым традыцыйная культура. Не будзем спрачацца. Проста гэтае мастацтва нам чужое, скіраванае на знішчэнне культуры народа.

Зямля багатая менавіта мноствам культур. І гэта сувязь культур робіць чалавека багацейшым. Таму мне не зразумела, як інтэлігентныя людзі могуць знішчаць сваю культуру. У нас жа проста



сустрэчны рывок, добраахвотнае знішчэнне. Справа ўскладняецца і тым, што ў цяперашняга ўрада няма палітыкі ў галіне культуры.

Жыццё сёння не адказвае за тое, што робіцца ў мастацтве, мастацтва не адказвае за жыццё. Гэта выгадна пэўным колам. На іх сумленні, дарэчы, за апошнія стагоддзі мноства злачынстваў. Адно з іх -- другая сусветная вайна, што закончылася 50 год назад.

Перамога ў Вялікай Айчыннай вайне -- гэта вяха. У мяне няма слоў, каб вызначыць свае пачуцці. Гледачы могуць іх зразумець з маіх работ, у прыватнасці, з цыкла "Лічбы на сэрцы".

Сёння спрабуюць рабіць рэвізію вынікаў той вайны. Адны прыпісваюць перамогу над фашызмам сабе. Другія сцвярджаюць, што не трэба было супрацiўляцца гітлераўскім акупантам. Многа гавораць. Але ж Перамога была. Перамагло чалавечае ў чалавеку.

... Ёсць у маім цыкле "Чорная быль" работа, якую я назваў "Пакінутыя". Я хацеў сказаць, што мы ўсе пакінутыя і бяссільныя перад чарнобыльскай бядой. Сёння я яшчэ больш перакананы, што гэта так. І не толькі фізічна. Духоўна таксама пакінутыя.

**Маналог мастака запісаў**
**Уладзімір МЯЛЕШКА.**

**НА ЗДЫМКУ: работа М. САВІЦКАГА "Крыж надзеі".**

## УЛАДЗІСЛАЎ ГАЛУБОК НА СЛОНІМСКАЙ СЦЭНЕ

Мастацкі кіраўнік Слонімскага беларускага драматычнага тэатра, заслужаны работнік культуры Беларусі Мікалай Варвашэвіч ажыццявіў пастаноўку спектакля "Каханне з падманам" па п'есе класіка беларускай драматургіі Уладзіслава Галубка "Ветрагоны". Дарэчы, гэта трэці спектакль Мікалая Варвашэвіча па п'есах нашага выдатнага драматурга. Яшчэ ў 1972 годзе ён упершыню паставіў драму "Ганка". Гэта была вялікая падзея ў тагачасным культурным жыцці нашай рэспублікі. Спектакль два разы паказвалі па тэлебачанні, шырока пісаў пра яго друк. Нават эміграцыйны часопіс "Баявая ўскалось" (N 12, 1972 г.), які выходзіў у Канадзе, змясціў фотаздымак Ганкі і тэкст да яго.

Восенню 1992 года гледачы рэспублікі зноў убачылі герояў У. Галубка на слонімскай сцэне. На гэты раз спектакль "Лекі ад кахання" па яго п'есе "Пісаравы імяніны". І вось -- яшчэ адна пастаноўка, яшчэ адно вяртанне да творчасці вялікага драматурга. "Каханне з падманам" -- такая назва новай прэм'еры па п'есе У. Галубка "Ветрагоны". Як вядома, п'еса ў розны час на сцэнах Беларусі ішла пад рознымі назвамі: "Хціўцы", "Дваяжэнцы" і іншыя.

Упершыню п'еса У. Галубка была апублікавана ў 1930 годзе. Даўно гэта было, але і сёння яна па-ранейшаму актуальная сваёй тэматыкай. Ёсць у ёй і фінансавая праблема, і злачынствы, і падманутае каханне, і нават палітыка. Уладзіслаў Галубок, калі пісаў сваю камедыю, добра ведаў, з каго і з чаго будуць смяяцца гледачы. Гэтага прытрымліваліся і рэжысёр, і акцёры. Смех драматурга з адмоўных рысаў чалавечага жыцця шчыры і адкрыты. Рэжысёр Мікалай Варвашэвіч пэўным чынам асучасніў спектакль, і таму ягоныя падзеі па-свойму ператлумачваюць наш будзённы, звычайны дзень...

Галоўныя ролі ў спектаклі выконваюць артысты Н. Жукоўская, І. Ерш, Т. Натарава, В. Сявец, У. Навумік і іншыя.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Каханне з падманам"**



*ВЕСТКІ З ДЫЯСПАРЫ*

# ПАЗІЦЫЯ МАСКОЎСКІХ БЕЛАРУСАЎ

Пабачыў свет чарговы нумар бюлетэня маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Францыска Скарыны "Шляхам Скарыны" (верасень 1994-га -- сакавік 1995 года). За гэтым разам выданне прадстаўнічай у беларускай дыяспары арганізацыі прысвечана стварэнню ў Маскве Беларускага культурнага цэнтра.

Распачынаецца нумар інфармацыйнай хронікай падзей, да якіх мелі дачыненне маскоўскія беларусы. З вышыні "мінскага бачання", магчыма, некаторыя падзеі могуць часам падацца драбнаватымі. Але ўсё адно -- малайцы аўтары і ўкладальнікі бюлетэня. З часам рэальны ход падзей якраз па гэтай і падобных хроніках можна будзе даследаваць, вывучаць.

Нельга без хвалявання, суперажывання чытаць адкрыты ліст у рэдакцыі беларускіх газет і грамадскія арганізацыі "Гісторыя станаўлення сучаснай маскоўскай беларускай дыяспары ў святле расійска-беларускіх дачыненняў, або Спроба справаздачы і вызначэння праблемаў". Руплівасці нашых маскоўскіх суродзічаў можна толькі па-добраму пазайздросціць. А таму-сяму нават і павучыцца. Але і шмат праблем у маскоўскага ТБК. Многія з іх узнікаюць, зразумела ж, па віне нашай усебеларускай знявагі да землякоў за межамі Беларусі. Іначай хіба здарылася б такое: "Пасля адстаўкі С.С.Шушкевіча пасольства спыніла ўсякія кантакты з дыяспараю. Ідэі "зоны" ўзмацніліся". І далей: "Спроба сяброў рады ТБК трапіць на прэс-канферэнцыю Лукашэнкі ў Маскве (у памяшканні пасольства) поспеху не мела, нягледзячы на тое, што яны дакладна ведалі час канферэнцыі".

Сваё бачанне вырашэння некаторых праблем беларускай дыяспары ў колішняй саюзнай сталіцы выкладае Генадзь Лех ("па даручэнню рады ТБК") у артыкуле "Якім павінен быць беларускі культурны цэнтр у Маскве".

Ёсць у бюлетэні і раздзел "З беларускай паэзіі". "Шляхам Скарыны" знаёміць з невядомым дагэтуль літаратарам. А імя яго Ігар Паўлоўскі. Вось рэдакцыйнае яго прадстаўленне: "...незвычайна таленавіты чалавек. Палкоўнік расейскага войска, бываўшы ў розных краінах свету, першы старшыня маскоўскае філіі Беларускага народнага фронту, шматгадовы сакратар і летапісец маскоўскага культурнага таварыства, беларускі бард -- ён праз усё жыццё пранёс любоў да сваёй Бацькаўшчыны -- сінявокае Беларусі...". "Шляхам Скарыны" змяшчае два творы Ігара Паўлоўскага.

**Адраджаючы край, што нам любы да болю,**
**Дзе славутыя продкі па-людску жылі, --**
**Хочам, каб бараніла нас і нашу волю**
**Беларускае войска беларускай зямлі, --**

піша І.Паўлоўскі ў вершы "Беларускае войска".

Калі гаварыць пра выдавецкую характарыстыку бюлетэня, то варта падкрэсліць, што, нягледзячы на ксераксны друк, "Шляхам Скарыны" аддрукаваны накладам 250 паасобнікаў. Значыць, ёсць цікаўнасць, ёсць беларускі рух у расейскай сталіцы.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# УСЯГО АДНО ЖЫЦЦЁ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

У снежні 1952 года лагерная пакутніца (а было ёй тады амаль 50 гадоў) запісала ў сваім дзённіку: "...з Беларусі, Пальчэўскі Аляксандр Восіпавіч, -- з яснай, усмешлівай душою, праўдзівы і па-сапраўднаму добры да людзей чалавек, асабліва да простых... (людзям гэта пра многае гаворыць!). Яму вельмі ідзе яго па-беларуску скарочанае імя -- ласкавае Алесь..." Але ж сказаўшы так пра Алеся Восіпавіча -- "з яснай, усмешліваю душой,.." -- яна сказала і пра сябе.

Хто ж яна і якой сілы яснасць, светласць у душы гэтай дзіўнай грузінкі?.. Лёс Тамары Георгіеўны ў значнай ступені прасвятляе кніга "Усяго адно жыццё". У анатацыі да гэтага тома, выдадзенага ў Тбілісі, гаворыцца: "У кнізе вядомая актрыса грузінскага тэатра, спадарожніца і паплечніца выдатнага рэжысёра Сандра Ахметэлі, член Саюза пісьменнікаў Беларускай ССР, расказвае пра свой жыццёвы і творчы шлях, цесна звязаны з станаўленнем і развіццём грузінскага тэатральнага мастацтва". Так, Тамара Цулукідзе -- пачынальніца сучаснага грузінскага тэатра. І, гартаючы старонкі ўспамінаў, давайце паспрабуем узнавіць яе лёс, пачатак вялікай дарогі. Маці Тамары -- актрыса аматарскага тэатра. Бацька -- Гіго Цулукідзе, князь, які, пачынаючы з 1905 года, прымае актыўны ўдзел у рэвалюцыйнай рабоце. Паплечнікі ліберальна-дэмакратычна настроенага арыстакрата -- Сярго Арджанікідзе, Філіп Махарадзе, Камо, іншыя таварышы. Па партыйных справах бацька часта пераязджаў з аднаго горада ў другі. Жонка з дзецьмі звычайна ехала следам.

У час першай сусветнай вайны маці Тамары пайшла працаваць у шпіталь (а жылі тады Цулукідзе ў Баку). Тамара па магчымасці дапамагала старэйшым. Чытала параненым салдатам газеты... А следам -- адна за другою прайшлі Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі, Цулукідзе пераехалі ў Тыфліс. Праўда, спярша давялося перанесці разню ў асаджаным Баку, акупацыю англічан. І толькі пасля -- Тыфліс, вучоба ў 2-й жаночай гімназіі, першыя тэатральныя зацікаўленні.

Ужо дарослай дзяўчынай Тамара ледзь не выпадкова трапляе на заняткі драматычнага гуртка імя Сумбатава -- Южына. Сумбатаўцы ў тую першую сустрэчу ігралі п'есу З.Гіпіус "Зялёнае кальцо". Праз многія дзесяцігоддзі Цулукідзе так прыгадае той час: "Я прыйшла да сумбатаўцаў у якасці пытлівай госці і засталася з імі назаўжды. Яны паланілі мяне сваім таварыскім радушшам, сваёй захопленасцю, агульнай марай стварыць Новы маладзёжны тэатр..."

А першым з асабістым удзелам спектаклем Тамары стала драматычная пастаноўка па п'есе Салагуба "Горкі цвет". Пазней у рэпертуар сумбатаўцаў увайшлі даволі складаныя работы -- "Дні нашага жыцця" Андрэева, "Мёртвыя душы" Гогаля... З часам гуртох пераўтварыўся ў "Тэатр для вучняў" (і патрапіў у распараджэнне Наркамасветы). Гурткоўцаў залічылі нават у прафсаюз работнікаў мастацтва, пачалі выдаваць харчовы паёк. Мелі акцёры і сціплыя заробкі.

Але паступова юнацкі тэатр распаўся. А Тамара Цулукідзе пайшла працаваць у прафесійны грузінскі тэатр. Праўда, спярша была вучоба ў Дзяржаўным тэатральным інстытуце. Гэтая навучальная ўстанова праіснавала нядоўга. Ды Тамара паспела прайсці школу інстытута. Дыплом атрымала ў маі 1924 года. І, як лічыла



**Набліжаецца Дзень Перамогі. Прыбіраюцца, прыхарошваюцца гарады і вёскі, ветэраны дастаюць з шафаў святочныя пінжакі і мундзіры, на якіх ззяюць іх баявыя ўзнагароды. Усё больш успамінаў, усё часцей згадваецца ваенны час, гераічнае і трагічнае ў ім. У музеі Віцебскага палітэхнікума нядаўна прайшла сустрэча з лётчыкам Уладзімірам ФІЛЮШЫНЫМ [на здымку справа], які ў вайну здзейсніў больш за 160 баявых вылетаў.**

**А ў Доме афіцэраў у Мінску адбыўся канцэрт ансамбля песні і танца Узброеных Сіл Беларусі, прысвечаны 50-годдзю Перамогі. У канцэрце прыняў удзел кампазітар Ігар ЛУЧАНОК [здымак злева].**



# ПРА ШТО РАСКАЗВАЮЦЬ ДАКУМЕНТЫ

**Камандуючы войскамі групы армій "Цэнтр"**

**Штаб-кватэра**
*8 ліпеня 1941 года*

### ЗАГАД

Бітва ў раёне Беласток-Мінск завершана. Войскі групы армій змагаліся з чатырма рускімі арміямі, у склад якіх уваходзіла каля 32 стралковых, 8 танкавых дывізій, 6 мотамеханізаваных брыгад і 3 кавалерыйскія дывізіі. З іх разгромлена:

22 стралковыя дывізіі,
7 танкавых дывізій,
6 мотамеханізаваных брыгад,
3 кавалерыйскія дывізіі.

Баявая магутнасць астатніх злучэнняў, якія пазбегнулі акружэння, таксама значна аслаблена. Страты праціўніка ў жывой сіле вельмі вялікія.

Падлік палонных і трафеяў да сённяшняга дня выявіў:

287 704 палонных, у тым ліку некалькі камандзіраў карпусоў і дывізій,
2 585 захопленых ці знішчаных танкаў,
1 449 гармат,
246 самалётаў,
мноства ручной зброі, боепрыпасаў, транспартных сродкаў, склады харчавання і гаручага...

Нашы страты былі не вышэйшыя, чым тыя, якія гатовы панесці мужныя войскі...

**Фон Бок,**
**генерал-фельдмаршал.**

### ПАЛІТЫЧНАЕ ДАНЯСЕННЕ ПАЛІТАДДЗЕЛА 11-га МЕХАНІЗАВАНАГА КОРПУСА ВАЕННАМУ САВЕТУ ЗАХОДНЯГА ФРОНТУ АД 15 ЛІПЕНЯ 1941 г.

Напад фашысцкай Германіі застаў 11 мк незабяспечаным матэрыяльна-тэхнічнай маёмасцю. Танкаў меліся: Т-26 -- 242, агнямётаў -- 18, БТ-5 -- 44, Т-34 -- 24, КВ -- 3. Танкі Т-26 і БТ-5 складалі галоўным чынам вучэбна-баявы парк, атрыманы на ўкамплектаванне з іншых часцей.

Да 10--15 працэнтаў танкаў у паход не былі ўзяты, таму што знаходзіліся ў рамонце. Артылерыйскія палкі не былі ўкамплектаваны поўнасцю гарматамі, прыборамі кіравання, трактарамі і аўтамашынамі. Аўтамашынамі корпус быў забяспечаны прыблізна на 10--15 працэнтаў. Матацыклетны полк -- кулямётны батальён, батальён сувязі, пантонныя батальёны зусім не былі забяспечаны інжынернай і спецыяльнай маёмасцю. Батальён сувязі корпуса з 19 належных рацый меў адну 5-АК.

Карт тапаграфічных раёнаў баявых дзеянняў зусім не было. Асабовым складам забяспечанасць была: радавым складам -- 100 працэнтаў (з іх да 60--65 майскага прызыву), малодшым начальніцкім складам мотастралковай дывізіі да 60 працэнтаў, а ў іншых часцях корпуса 13--30 працэнтаў, камначскладам да 60 працэнтаў.

Па баявой трывозе ўсе часці вывелі ўвесь асабовы склад, што меў узбраенне і мог біцца, што склала 50--60 працэнтаў усяго складу, а астатні склад быў пакінуты ў раёне дыслакацыі часцей, з якіх частка была ўзброена потым і выкарыстана ў барацьбе з авіядэсантамі праціўніка ў тыле, а часткова адышлі з адступаючымі часцямі...

На працягу 22 і 23.6 часці корпуса вялі баі на фронце Канюхі, Новы Двор, Домбрава. Пад націскам праціўніка да 24.6 часці корпуса адышлі на фронт Гродна (Фолеш), Кузніца, Саколка, утрымліваючы фронт на захад ад шашы Гродна і чыгункі Гродна -- Беласток. 24.6 па загаду камандарма 3 корпус павінен

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 15, 16.**

быў адысці на рубеж ракі Свіслач, але па прапанове камандзіра корпуса часці заставаліся на фронце Пагарны, Гібурычы, Кузніца-Саколкі да канца дня 26.6.

У сувязі з хуткім адыходам на ўсход ад Гродна часцей, што дзейнічалі на поўнач ад ракі Нёман, праціўнік спрабаваў фарсіраваць раку Нёман з выхадам часцямі корпуса ў тыл. Але ўсе спробы немцаў фарсіраваць раку Нёман былі адбіты. Для ўтрымання праціўніка загадам арміі было выкінута 26.6 два батальёны 204 мд праз Лунна на рубеж ракі Котры. 1-шы стралковы батальён па загаду камандзіра корпуса быў выкінуты для ўтрымання моста каля Лунна.

Панесеныя вялікія страты за час баёў з 22 да 26.6 як асабовага складу, так і матэрыяльнай часткі рабілі корпус малабаяздольным. У танкавых дывізіях заставалася не больш 300--400 чалавек, а ў мд -- па аднаму няпоўнаму батальёну ў палку, танкаў -- да 30 штук і да 20 бронемашын. Усе невялікія тылы дывізій былі спалены ці расстраляны авіяцыяй праціўніка, якая ганялася літаральна за асобнымі машынамі.

**Намеснік камандзіра 11-га корпуса па палітычнай частцы палкавы камісар Андрэеў.**

### РАЗВІЦЦЁ ПАРТЫЗАНСКАГА РУХУ

*ЗАПІСКА САКРАТАРА ЦК КП(Б) БЕЛАРУСІ П.К. ПАНАМАРЭНКІ*

*Не пазней 12 ліпеня 1941 г,*
*Зусім сакрэтна*

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ ВКП(б) ТАВ. СТАЛІНУ І.В.**

### АБ СТАНОВІШЧЫ Ў БЕЛАРУСІ

З 100 раёнаў Беларусі ў старых межах у нашых руках знаходзіцца 51 раён і на тэрыторыі -- у тыле праціўніка раёнаў 20 знаходзяцца пад нашым кантролем, таму што вораг ідзе па дарогах і па фронту -- пяхотай пройдзенае не замацаваў.

Настрой беларусаў выключна патрыятычны і баявы. Жывёлу з калгасных ферм пагналі, як толькі аб'явілі аб гэтым. У сувязі з гэтым не толькі не было інцыдэнтаў, наадварот, калгаснікі выдзялялі гоншчыкаў, даярак -- у дарогу следавання забяспечылі ўсім.

Цяпер праз Днепр і Дзвіну прайшло звыш 350 000 галоў жывёлы. Там, дзе калгаснікі паднімаюць асабістую жывёлу, там здымаецца ўвесь калгас і адыходзіць. Гавораць: "Трактары, коні і жывёла ідуць, і мы пойдзем, Савецкая ўлада будзе, усё будзе".

На абарончыя работы па лініі Дняпра выходзілі ўсе -- і жанчыны, і старыя, і дзеці. Працавала да 150 000 чалавек...

Зброі, вядома, вельмі мала, камандаванне не выдзяляе нічога, таму што запасным палкам не хапае. Калгаснікі дастаюць яе, забіваючы немцаў і падбіраючы кінутую.

Аднак, мне думаецца, што 10--15 тысяч вінтовак з ліку трафейных, бракаваных і г.д. можна было б набраць. Наяўнасць у раёне арганізаванай загадзя партызанскай дружыны на 200--300 чалавек з вінтоўкамі, як паказаў вопыт, прыводзіць да таго, што ўвесь раён пачынае партызаніць таму, што ў 300 чалавек не менш за 1 000 чалавек сваякоў, якія так ці інакш уцягваюцца, а самае галоўнае, арганізацыйны цэнтр гатовы, і калгаснікі ведаюць, куды ісці і далучацца.

Усё больш і больш пачынаем атрымліваць весткі аб выдатных дзеяннях партызан.

Вось некалькі дакладных прыкладаў:

а) у Бярэзінскім раёне партызанскі атрад каля 100 чалавек пад камандай тав. Юрына (чэкіст, пакінуты намі) напаў з засады на атрад нямецкай пяхоты ў 200 чалавек, што рухаўся па шашы, пасля кароткага, але гарачага бою немцы страцілі забітымі 150 чалавек. Астатнія 50 чалавек уцяклі і былі па адным знішчаны сялянамі.

б) Партызанскі атрад пад камандай сакратара Кастрычніцкага райкома КП(б) Бумажкова Ц.П. падпільнаваў у лесе калону танкаў ворага, што спынілася, імкліва напаўшы, ён завалодаў усімі 18 танкамі і спаліў іх.

в) Партызанскі атрад пад камандай партработніка Каваленкі ўзарваў мост праз р. Пціч і доўга затрымліваў рух танкаў праціўніка. Каваленка забіты...

У занятых раёнах немцы стараюцца падладзіцца да сялян.

Прыязджаючы ў вёску, салдаты і афіцэры вітаюцца з найбольш шаноўнымі сялянамі за руку, дзецям раздаюць шакаладкі, жанчынам там-сям даюць па 2--3 метры паркалю, галоўным чынам дрэвалюцыйнай расфарбоўкі...

Як вывад, павінен падкрэсліць -- выключнае бясстрашша, стойкасць і непрымірымасць да ворага калгаснікаў у адрозненне ад некаторай часткі служывага люду гарадоў, якія ні пра што не думаюць, акрамя выратавання шкуры. Гэта тлумачыцца ў вядомай ступені вялікай яўрэйскай праслойкай у гарадах. Іх апанаваў жывёльны страх перад Гітлерам, і замест барацьбы -- уцёкі.

У заключэнне яшчэ паўтараю просьбу дапамагчы зброяй для калгаснікаў, камуністаў і камсамольцаў, таму што фронт не выдзяляе, акрамя гранат, мне нічога.

**Сакратар ЦК КП(б) Беларусі член Ваенсавета Захфронту П. Панамарэнка.**

### З ЗАГАДА СТАЎКІ ВЯРХОЎНАГА ГАЛОЎНАГА КАМАНДАВАННЯ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ N 270

*16 жніўня 1941 года*

**ЗАГАДВАЮ:**

1. Камандзіраў і палітработнікаў, якія ў час бою зрываюць з сябе знакі адрознення і дэзерціруюць у тыл ці здаюцца ў палон ворагу, лічыць зламыснымі дэзерцірамі, сем'і якіх падлягаюць арышту як сем'і тых, хто парушыў прысягу і здрадзіў сваёй Радзіме.

Абавязаць усіх вышэйстаячых камандзіраў і камісараў расстрэльваць на месцы падобных дэзерціраў з начскладу.

2. Трапіўшым у акружэнне ворага часцям і падраздзяленням самаадддана змагацца да апошняй магчымасці, берагчы матэрыяльную частку як зрэнку вока, прабірацца да сваіх па тылах варожых войск, наносячы паражэнне фашысцкім сабакам.

Абавязаць кожнага ваеннаслужачага незалежна ад яго службовага становішча патрабаваць ад вышэйстаячага начальніка, калі часць яго знаходзіцца ў акружэнні, змагацца да апошняй магчымасці, каб прабіцца да сваіх, і калі такі начальнік ці частка чырвонаармейцаў замест арганізацыі адпору ворагу аддадуць перавагу таму, каб здацца ў палон, -- знішчаць іх усімі сродкамі як наземнымі, так і паветранымі, а сем'і тых чырвонаармейцаў, што здаліся ў палон, пазбаўляць дзяржаўнай дапамогі.

3. Абавязаць камандзіраў і камісараў дывізій неадкладна здымаць з пасад камандзіраў батальёнаў і палкоў, якія хаваюцца ў шчылінах у час бою і баяцца кіраваць ходам бою на полі бітвы, зніжаць іх па пасадзе, як самазванцаў, пераводзіць у радавыя, а пры неабходнасці расстрэльваць іх на месцы, прызначаючы на іх месца смелых і мужных людзей з малодшага начскладу ці з радоў чырвонаармейцаў, якія вызначыліся.

**Старшыня Дзяржаўнага Камітэта Абароны І. Сталін.**

### З АПЕРАТЫЎНАЙ ЗВОДКІ ЦШПР АБ АДНАЎЛЕННІ ПАРТЫЗАНАМІ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ Ў РАЁНАХ І НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАХ БЕЛАРУСІ І ЗНІШЧЭННІ ІМІ ЖЫВОЙ СІЛЫ І ТЭХНІКІ ПРАЦІЎНІКА Ў МАІ — ЧЭРВЕНІ 1942 ГОДА.

*16 чэрвеня 1942 г.*

... На 8 чэрвеня 1942 года партызаны Гомельскай вобласці ў 103 населеных пунктах аднавілі Савецкую ўладу.

30 мая 1942 года партызанамі знішчаны карны атрад праціўніка.

Партызанамі, што дзейнічаюць у раёне Бабруйска, на 12 чэрвеня 1942 года поўнасцю вызвалены ад нямецкіх акупантаў Клічаўскі, Бярэзінскі раёны і напалову вызвалены Кіраўскі раён. Партызаны, кантралюючы шашу Магілёў-Бабруйск, прымусілі праціўніка спыніць рух па гэтай дарозе...

Партызанскія атрады, што дзейнічаюць у раёнах Глуска, Любані, Акцябрскага і Капаткевічаў, на 13 чэрвеня 1942 года вызвалілі ад акупантаў 418 населеных пунктаў, устанавіўшы ў іх Савецкую ўладу. Партызанамі знішчана 3 карныя атрады праціўніка.

Атрады Гуляева, Розава, Патрына і Лукашэвіча, дзейнічаючы сумесна ў раёне Глуска, Любані, Капаткевічаў, 15 мая 1942 года раптоўна напалі на карны атрад праціўніка, знішчылі ў баі 3 афіцэры, 72 салдаты. Атрад Гуляева 22 мая 1942 года вёў бой з праціўнікам, знішчыўшы 4 афіцэры і 37 радавых гітлераўцаў. Атрадам Розава 10 чэрвеня 1942 года па дарозе Любань-Глуск знішчана і штабная машына. У аперацыі знішчана: 1 генерал, 10 афіцэраў і 4 салдаты праціўніка. Захоплена 2 кулямёты, некалькі дзесяткаў вінтовак і штабныя дакументы...

# ФІЛАСОФІЯ ПАРТЫЗАНСКАЙ ВАЙНЫ

**(ДА ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ НАД ФАШЫСЦКАЙ ГЕРМАНІЯЙ)**

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

У выніку Чырвоная Армія сапраўды разглядала тэрыторыю Беларусі як толькі прастору для стратэгічнага манеўру і зусім не была настроена на тое, каб абараняць яе да апошняга як уласную Айчыну, што абавязкова зрабіла б беларуская нацыянальная армія, калі б такой дазволена было існаваць. Чырвоная Армія, зрэшты, кіруючыся толькі праславутым інтэрнацыянальным абавязкам, з такой жа ганебнай лёгкасцю паздавала ворагу і расійскія тэрыторыі. Толькі пад самай Масквою, калі яна была папоўнена, як тады гаварылі, сібіракамі, г. зн., калі з інтэрнацыянальнай ператварылася па сутнасці ў нацыянальную рускую армію, надзеўшы пазней пагоны часоў дарэвалюцыйнай Расійскай імперыі і ўспомніўшы Суворава і Кутузава, яна здолела нарэшце спыніць трыумфальнае шэсце фашысцкіх дывізій. Хвалёны "интернациональный долг" увогуле паказаў усю сваю утапічную непрыгоднасць для ваеннай тэорыі і практыкі і ў іншыя часы, ужо па вайне. Успомнім ганебнае паражэнне савецкіх войскаў у Афганістане, якім геpаічна процістаялі афганскія маджахеды, што абаранялі сваю айчыну метадамі партызанскай вайны, не кажучы ўжо аб цяперашнім скандальна-смехатворным правале расійскай ваеншчыны ў чэчэнскай авантуры, дзе зноў-такі аказалася тая ж самая расстаноўка сіл, што і ў Афганістане, і дзе зноў рэгулярная армія наткнулася на актыўнае народнае супраціўленне.

У выніку Беларусь у час вайны, як ужо было сказана, апынулася зусім безабароннай перад узброеным да зубоў захопнікам. Мала таго, што ў яе не было ўласнай арміі, але і яе нацыянальная самасвядомасць знаходзілася ў падарваным стане. Трагічна адбілася планамернае вынішчэнне беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі і ўвогуле навязаная беларускаму народу чужая ў прынцыпе ментальнасць, заснаваная на марксісцка-ленінскай ідэалогіі, якая распальвала класавыя супярэчнасці і проціпастаўляла рабочых сялянам, горад -- вёсцы, работнікаў фізічнай працы -- інтэлігенцыі, разбураючы тым самым адзінства нацыі і душачы яе самасвядомасць. Далучылася да гэтага і тое, што Беларусь доўгі час была разарванаю на дзве часткі Рыжскім дагаворам, які падзяліў і саміх беларусаў на "западников" і "восточников", а тое, у сваю чаргу, не давала згаснуць старадаўняму процістаянню паміж каталіцтвам і праваслаўем, процістаянню, што загубіла ў свой час і Вялікае Княства Літоўскае.

Усё гэта разам прывяло да таго, што Беларусь аказалася не падрыхтаванай да супраціўлення агрэсару і духоўна. Калі гарадское насельніцтва, напрыклад, складзенае пераважна з рабочых і інтэлігенцыі, пад націскам яшчэ і савецкай прапагандысцкай машыны ўспрыняло фашысцкае нашэсце як варожую ўсё ж такі агрэсію і стала супраціўляцца ёй, хоць і пад ілюзорнымі савецкімі гаспамі, то некаторая частка вясковых жыхароў, знявечаных і зняважаных як самой калектывізацыяй, так і метадамі яе здзяйснення, падпала пад другую ілюзію, ілюзію ўспрыняцця нямецкай арміі як арміі-вызваліцельніцы ад бальшавіцкага ярма, што ў сваю чаргу актыўна падтрымлівалася гэтым разам ужо з боку фашысцкіх Propagandastaffeln. Вялікая ж частка насельніцтва захоўвала таксама і нейтральную пазіцыю згодна з няшчасна-традыцыйным прынцыпам "мая хата з краю". Рэальнасць, аднак, хутка ўзяла сваё, і пры яе злавесным святле пачалі знікаць усе ілюзіі. Імкліва развеялася ілюзія аб непераможнасці савецкага ладу і яго ваеннай сілы --Чырвонай Арміі, як і ілюзія аб хуткім канцы вайны на тэрыторыі праціўніка. Пад уплывам гэтага працверазення не знайшлі развіцця вядомыя спробы арганізаваць на захопленых землях шырокі партызанскі рух ужо ў 1941 годзе, хоць і выносіліся па ініцыятыве самога Сталіна адпаведныя пастановы на самых высокіх партыйных узроўнях. Многія з тых спецыяльна падрыхтаваных і пакінутых на гэтых тэрыторыях груп бясслаўна зніклі, не пакінуўшы нават і следу ў архіўных матэрыялах, што не адмаўляла пазней і афіцыйная савецкая гістарыяграфія. Развеяліся і іншага характару ілюзіі, калі беларусы на свае ўласныя вочы ўбачылі фашысцкія зверствы і адчулі стаўленне да сябе як да звычайнага быдла. Стала відавочным, што прынесены пад знакам свастыкі "новы парадак" яшчэ страшнейшы, чым той, што існаваў пад сярпом і молатам. І тады, к 1943 году, шырока разгарнуўся, узнікшы пераважна знізу, сапраўды ўсенародны партызанскі рух, рух, дзякуючы якому каля шасцідзесяці працэнтаў беларускай зямлі было вызвалена ад фашысцкіх захопнікаў і ў якім паступова стала ўвасабляцца беларуская нацыянальная самасвядомасць, няхай яшчэ і ў інтуітыўнай, неўсвядомленай добра форме. Менавіта за гэты рух, за гэтае актыўнае супраціўленне, не горшае, чым славутая французская Resistance, і была Беларусь прынята ў свой час у склад Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Аднак азначаная вышэй разарванасць беларускага нацыянальнага менталітэту і ўзнікшыя на яе аснове ілюзіі не маглі не накласці трагічнага адбітку на гэтае супраціўленне, у якім пакутліва змяшаліся рысы нацыянальна-вызваленчай вайны з рысамі вайны грамадзянскай. Беларускі народ быў змушаны весці барацьбу не толькі з чужаземным захопнікам, але, так бы мовіць, і сам з сабою, г. зн., з тымі сваімі людзьмі, што палічылі за лепшае стаць на бок чужынцаў, чым абараняць таксама чужы ім бальшавіцкі парадак з такімі ж канцлагерамі і такімі ж нялюдскімі жорсткасцямі. Супраціўленне на два франты палярызавала беларусаў, і злавесная лінія той палярызацыі прайшла па самых розных першапачатковых трэшчынах і размежаваннях: не толькі па лініі падзелу паміж камуністамі і простым народам, але і па лініях паміж вёскай і горадам, "заходнікамі" і "ўсходнікамі", паміж канфесіямі і нават паміж пакаленнямі. Зрэшты, гэта характэрна было і для іншых рэспублік Савецкага Саюза. Тое ж, напрыклад (і, можа, яшчэ ў больш выразнай форме), назіралася ў Прыбалтыцы і на Украіне. Тое ж самае ў прынцыпе мела месца і ў апошнія гады ў Грузіі, у Азербайджане і ў сённяшняй пакутніцы Чэчні, дзе падобны раскол народа свядома ўжо праводзіўся расійскімі спецслужбамі шляхам наўмыснага абвастрэння супярэчнасцяў паміж рускамоўнымі дэнацыяналізаванымі вярхамі і асноўнаю народнаю масаю і стварэння на базе гэтага ўсялякіх там "апазіцый", марыянетачных "урадаў" і г.д.

На Беларусі, аднак, партызанская вайна менавіта як вайна супраць фашысцкіх захопнікаў атрымала ўсё ж такі перавагу. І не толькі таму, што тут было куды больш спрыяльных прыродных умоў, як, напрыклад, лясы, але і таму, што беларусы, хоць і не паспелі пажыць пасля рэвалюцыі свабодным незалежным жыццём, як тое было ў прыбалтыйскіх рэспубліках і ў некаторай ступені на Украіне, але і яны пачыналі ўжо пачуваць сябе самастойным народам. Менавіта таму так разгарэлася полымя партызанскага супраціўлення на Беларусі, а зусім не дзякуючы "испытанному руководству партии большевиков и ее вождю великому Сталину", як нам зараз бясконца цвярдзяць лампасаносныя прыхільнікі аднаўлення СССР. Ваеннае кіраўніцтва з Масквы пачало актыўна абапірацца на партызанскі рух толькі з 1943 года, арганізуючы такія важныя для яго стратэгічныя аперацыі, як рэйкавая вайна і спробы адначасовага штурму гарадоў і мястэчак, не кажучы ўжо аб збіранай праз нас багатай разведінфармацыі. Нас скарыстоўвалі ў ваенным сэнсе, імкнучыся ў той жа час кантраляваць з дапамогаю спецыяльна ўведзенага інстытута камісараў і спрабуючы насаджаць сумна вядомыя "асобыя аддзелы", сама назва каторых была скалькавана з назвы не менш злавесных нямецкіх Sonderabteilungen. Сталін увогуле не давяраў партызанам, і, напрыклад, зброяй і медыкаментамі дапамагалі нам вельмі і вельмі скупа.

Партызанская вайна, думаецца, увогуле яшчэ па-сапраўднаму не вывучана як сацыяльная з'ява, хоць вядома яна ўжо амаль што з часоў антычнасці, калі германцы ваявалі з імперскім Рымам таксама партызанскімі, як бы мы зараз сказалі, метадамі. Як правіла, гэта былі вызваленчыя войны супраць чужаземных захопнікаў і таму заўсёды насілі ўсенародны характар. І, як правіла, яны вельмі не падабаліся самім захопнікам. Войны гэтыя ацэньваліся імі звычайна як нешта няправільнае і незаконнае (як быццам агрэсіўныя дзеянні саміх захопнікаў правільныя і законныя!), а тых, хто іх праводзіў, ахрышчвалі звычайна незаконнымі бандфарміраваннямі, а то і проста бандытамі. Так, напрыклад, Напалеон і яго маршалы называлі іспанскіх герыльерасаў, так характарызавалі нямецка-фашысцкія захопнікі нас, беларускіх партызан. Гэтак жа ўжо зусім нядаўна акрэсліваліся савецкім камандаваннем афганскія змагары за незалежнасць -- маджахеды (слова "душман" таксама ўжывалася ў значэнні "бандыт"). І вось ужо сёння мы зноў тое ж самае чуем і чытаем у расійскіх афіцыйных сродках інфармацыі адносна гераічнага чэчэнскага апалчэння, што змагаецца за сваю нацыянальную незалежнасць...

Калі ў часы Цэзара або Напалеона, з фармальнага пункту гледжання, партызанскае супраціўленне сапраўды магло ўяўляцца чымсьці як бы незаконным, то ў нашу эпоху, аднак, такое абвінавачанне з боку захопніка не мае ўжо і фармальнай падставы і можа быць ацэнена як свядомая прапагандысцкая мана. Прававы статус партызанскага ваяра ў якасці камбатанта (так менавіта называліся там партызаны) быў яшчэ ў 1907 годзе юрыдычна акрэслены і замацаваны ў IV Гаагскай канвенцыі аб законах і звычаях сухапутнай вайны і, напрыклад, згодна з гэтай канвенцыяй, нават трапіўшы ў палон, партызан павінен быў разглядацца як ваеннапалонны з усімі належачымі яму правамі падобна салдату рэгулярнай арміі. Немцы, як вядома, не прытрымліваліся гэтай канвенцыі ў адносінах да савецкіх ваеннапалонных, спасылаючыся на тое, што ўрад СССР у свой час яе не падпісаў. Сталін лічыў, што ў Чырвонай Арміі ніхто не павінен быў трапляць у палон. Чым тое абярнулася для савецкіх салдат, масава пакідаемых у шматлікіх акружэннях бяздарным камандаваннем у першыя гады вайны, агульнавядома. Усё гэта прыйшлося адчуць на ўласнай шкуры і аўтару гэтых радкоў. Тым больш небяспечна было трапляць у нямецкія рукі партызанам: фашысцкая СД іх звычайна расстрэльвала, а то і вешала без суда і следства. Гітлер і Сталін былі вартымі адзін аднаго.

Акрамя, аднак, чыста знешняй юрыдычнай формы, партызанскае супраціўленне мае яшчэ і вельмі важны ўнутраны, маральны змест. Будучы, як правіла, добраахвотнікам, партызан абараняе незалежнасць сваёй краіны і свайго народа ў якасці свядомага яго прадстаўніка і робіць тое не столькі згодна з прадпісаным яму законам абавязкам, колькі па ўнутранаму, маральнаму перакананню. У адрозненне ад звычайнага салдата, ён абараняе не толькі юрыдычны суверэнітэт сваёй дзяржавы, але, так бы мовіць, і маральны, духоўны суверэнітэт свайго народа ўвогуле, суверэнітэт, пад якім тут разумеецца і нацыянальная годнасць народа, і яго звычаі, рэлігія, мова, мастацтва -- усё тое, што завецца звычайна нацыянальнай культурай і ўяўляе сабою як бы ўцелясненне **душы** народа, яго своеасаблівае мыпачуццё, яго самасвядомасць, яго калектыўнае "Я". Усё гэта менавіта і дае партызану здольнасць змагацца да канца, не шкадуючы ўласнага жыцця, здольнасць, якая так не падабаецца захопніку і якую ён называе звычайна фанатызмам, не заўважаючы нават таго, што называць партызана адначасова фанатыкам і бандытам ёсць проста бязглуздзіца. Фанатык у сваёй барацьбе кіруецца верай у нешта святое для яго (fanum па лаціне якраз і азначае святыню, храм), і такою святыняю для яго з'яўляецца ўласная Айчына і ўласны народ. Бандыт жа не верыць ні ў Бога, ні ў чорта і, калі й змагаецца, то толькі дзеля ўласнае шкурнае выгады. Бандытызм і стаў пагэтаму сёння сапраўды інтэрнацыянальнаю, касмапалітычнаю з'яваю.

У выніку ўзнікае яшчэ адна важная асаблівасць партызанскай вайны, якая выразна назіралася пяцьдзесят год таму назад і гэтак жа выразна бачыцца і цяпер. Ваенныя дзеянні з боку агрэсара-захопніка вядуцца звычайна пад прыкрыццём выключна фармальнай легітымнасці, асновай якой з'яўляецца загад альбо распараджэнне ўрада, бо ў захопніка адсутнічае маральнае апраўданне яго дзеянняў. Так, напрыклад, фашысцкія акупанты спасылаліся на загад камандзіра і воінскі абавязак нават тады, калі палілі жанчын і дзяцей у якасці заложнікаў. Савецкія войскі ў Афганістане бамбілі мірныя кішлакі і аулы, таксама спасылаючыся на загад і так званы "интернациональный долг". І цяпер у Чэчні федэральныя войскі Расіі, якія "обрабатывают", згодна са словамі генерала Рохліна, жылыя раёны Грознага з дапамогай установак "град", разлічаных на масавае паражэнне па плошчы, зноў жа ківаюць на канстытуцыйны парадак і фармальна юрыдычную цэласнасць Расійскай Федэрацыі, не клапоцячыся аб гінучых старых, жанчынах і дзецях, не толькі чэчэнскіх, дарэчы, але і аб сваіх, расійскіх, што жывуць у Чэчні і Грозным. А ўжо пра такую рэч, як права народа на самавызначэнне, прызнаванае нават Леніным, увогуле маўчаць, як маўчалі пра тое фашысты пяцьдзесят год таму назад, калі тапталі сваімі каванымі ботамі незалежнасць і годнасць беларускага народа.

Наадварот, абаронцы свайго народа і яго нацыянальнай годнасці ў працэсе партызанскай вайны абапіраюцца пераважна на маральны дух, на глыбінна маральнае мыпачуццё, на суверэнітэт народнай душы. Так дзейнічалі мы, беларускія партызаны, супраціўляючыся фашысцкай навале, так дзейнічалі афганскія маджахеды, так робяць і, як здаецца, доўга яшчэ будуць вымушаны рабіць апалчэнцы пакутніцкай Чэчні. І менавіта ў Чэчні азначаная супярэчнасць паміж фармальнаю легітымнасцю наступальных аперацый расійскіх войск (Чэчня фармальна з'яўляецца ўсё ж такі часткай Расійскай Федэрацыі, што прызнаецца і заходнімі палітыкамі) і маральнаю праватаю народнага апалчэння Чэчні, што пераходзіць зараз да чыста партызанскіх метадаў супраціўлення, -- супярэчнасць гэта дасягае цяпер максімальнай вастрыні. І на баку дудаеўскіх партызан не толькі груба парушаныя расійцамі правы чалавека, пра што пачынаюць ужо гаварыць і на Захадзе, але і проста растаптанае права на самавызначэнне цэлага народа. Апошняе асабліва важна менавіта для Чэчні, якую ў часы Шаміля "усмирял" Ярмолаў тактыкай выпаленай тэрыторыі, якую паўстагоддзя таму назад зноў жа расійскія войскі па сталінскаму загаду спрабавалі сцерці з твару зямлі і якую цяпер ужо трэці раз "разоружают" такімі ж метадамі агню і жалеза, што ўяўляе сабой фактычна прамы і адкрыты генацыд.

Партызанская вайна -- гэта заўсёды трагедыя, але трагедыя, як пісаў яшчэ Гегель, аптымістычная. Аптымістычная яна таму, што ў ёй перамагае дух і менавіта народны дух. Дух, а не танкі і ўстаноўкі "град". Мы тое бачылі пяцьдзесят год таму назад, калі процістаялі ўзброенай да зубоў фашысцкай арміі, самі маючы на ўзбраенні ржавыя вінтоўкі ды кулямёты, знятыя з кінутых савецкіх танкаў. Мы бачым тое на вуліцах Грознага, дзе маюць месца фактычна такія ж суадносіны сіл, у колькасным, па крайняй меры, сэнсе. Гэта галоўны ўрок, які можна вынесці з тых падзей, што наканавана было гісторыяй перажыць Беларусі ў страшнай ваеннай бойні 1941--1945 гадоў. І яшчэ адзін вывад можна зрабіць, успамінаючы тыя далёкія гераічныя гады, вывад, які мае значнасць ужо і для будучыні. Калі і нам, не давядзі Божа, прыйдзецца зноў абараняць сваю незалежнасць, то мы зараз будзем знаходзіцца ў куды больш выгадным становішчы. На нашым баку будзе не толькі маральная правата і апора на нацыянальную самасвядомасць, але і юрыдычная легітымнасць у форме дзяржаўнага суверэнітэту, прызнанага ва ўсім свеце, так што мараль і права не стануць ужо супярэчыць адно аднаму.

Беларусь існуе, і існуе як самастойная, незалежная дзяржава, прызнаная не толькі іншымі дзяржавамі, але і Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый. І суверэнітэт яе ўзыходзіць да тых часоў, калі беларускі народ у трагічных абставінах партызанскай вайны адстойваў сваю незалежнасць ад агрэсіі фашысцкага рэйха і калі менавіта за гэтую барацьбу быў удастоены таго, што нават, не маючы сваёй легітымнай дзяржаўнасці, быў прыняты ў сябры ААН. З гэтага пункту гледжання і трэба сёння ўспамінаць вялікую дату -- Дзень пераможнага завяршэння другой сусветнай вайны, развязанай міжнародным фашызмам. Менавіта ж з гэтага пункта гледжання мы павінны цаніць і ахоўваць галоўную нашу заваёву ў барацьбе за незалежнасць, што вялася ў тыя далёкія гады, -- выпакутаваны і шчодра аплачаны крывёю суверэнітэт Рэспублікі Беларусь.

**Мікола КРУКОЎСКІ,**
**прафесар, доктар філасофскіх навук, былы начальнік штаба атрада 2-й Заслонаўскай партызанскай брыгады.**

*МУЗЕЙ Янкі КУПАЛЫ І ЦЁЦЯ УЛАДЗЯ*

# З ЯНКАМ КРОК У КРОК

Сёлета Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы адзначыць сваё 50-годдзе. Яшчэ за месяц да вызвалення Мінска і за год да Дня Перамогі 25 мая 1944 года ён быў заснаваны згодна з Пастановай Савета Народных Камісараў БССР. Адкрыты для наведвання 20 верасня 1945 года. Спачатку музей размяшчаўся ў двух невялікіх пакоях Дома прафсаюзаў на плошчы Свабоды, 23, з 1950 года -- на вуліцы Энгельса, 21, з 1959 -- у спецыяльным будынку на вуліцы Янкі Купалы, 4, які вырас на месцы дома, дзе жыў паэт з 1927 па 1941 год.

Вядома, што ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны дом Купалы згарэў. Архіў, бібліятэка, амаль усё, што належала паэту, было знішчана.

Стваральнікам і першым дырэктарам музея была жонка Янкі Купалы -- Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Імя яе ўвайшло ў летапіс гісторыі музея.

Мінула 35 гадоў, як не стала незабыўнай Уладзіславы Францаўны. Вечар памяці гэтага цудоўнага чалавека адбыўся ў купалаўскім музеі. На яго прыйшлі студэнты Мінскага педуніверсітэта, для якіх знаёмства з жыццём і дзейнасцю Уладзіславы Францаўны -- справа будучыні. Вядучая вечара М. Чабатарэвіч, адкрываючы яго, адзначыла, што Уладзіслава Францаўна належыць да таго слаўнага часу беларускай гісторыі, які вылучыў такую шчодрую плеяду пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў, як Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алаіза Пашкевіч (Цётка), Зоська Верас, Канстанцыя Буйло. Атрымаўшы па спадчыне ад сваёй маці Эміліі Манэ, выкладчыцы французскай мовы, узнёслую натуру, Уладзіслава Францаўна назаўсёды палюбіла родную прыроду, родны край, сваю мову і свой народ. А сустрэча з Алаізай Пашкевіч вызначыла лёс Уладзіславы Станкевічанкі -- выхаванне дзяцей.

Працуючы ў Вільні ў дзіцячым прытулку, яна праводзіла з дзецьмі заняткі на роднай беларускай мове, вучыла беларускія вершы, народныя гульні і песні. З дапамогай роднага беларускага слова яна знаёміла дзяцей з культурай і мовай свайго народа. Праца вельмі захапіла пачынаючага педагога. Хацелася ўсю сябе аддаць выхаванню абяздоленых, няшчасных дзяцей і хоць чым-небудзь аблягчыць іх цяжкі лёс.

На фарміраванне поглядаў Уладзіславы Францаўны ўплывала сувязь з прадстаўнікамі прагрэсіўна настроенай беларускай інтэлігенцыі: паэтэсай-рэвалюцыянеркай Цёткай, Ядвігіным Ш., Я. Купалам, З. Бядулем, С. Палуянам і іншымі вядомымі дзеячамі беларускага Адраджэння.

У пачатку першай сусветнай вайны Уладзіслава Францаўна пераязджае ў Мінск, дзе турбуецца, як выратаваць дзяцей ад жаху вайны, як стварыць для бежанцаў дзіцячыя дамы і прытулкі. Па прапанове Цёткі і рэдакцыі часопіса "Лучынка" ёй даручылі наладзіць кантакт з княгіняй Радзівіл, дамагчыся прыхільнасці мільянершы і атрымаць ад яе сродкі на адкрыццё дзіцячага дому. Аднак нічога з гэтага не атрымалася. Княгіня на той час сама апынулася ў складаным фінансавым становішчы. Клопаты пра абяздоленых дзяцей, імкненне замяніць ім маці і блізкіх людзей сталі ў гэты час найвялікшай мэтай, сэнсам жыцця Уладзіславы Францаўны.

Вельмі цікава пра Уладзіславу Францаўну Луцэвіч як педагога гаварыла прафесар педуніверсітэта, доктар педагагічных навук Ефрасіння Андрэева. У прыватнасці, яна сказала, што ў 1919 годзе Уладзіслава Луцэвіч працавала ў апараце Наркамасветы Беларусі інспектарам дашкольных устаноў і яе педагагічная і грамадская дзейнасць набыла новыя напрамкі ў развіцці нацыянальнай культуры і асветы.

У 1925 годзе Уладзіслава Луцэвіч працуе выхавальніцай, а потым загадчыцай беларускага дзіцячага садка і робіць яго паказальным. Гэтая дашкольная ўстанова стала цэнтрам, дзе праводзілася практыка навучэнцаў педвучылішчаў, і месцам правядзення педагагічных канферэнцый.

Вялікім здабыткам Уладзіславы Францаўны стала багатая літаратурна-педагагічная спадчына. Яна апрацоўвала для дзяцей народныя песні, казкі, пацешкі, калыханкі.

Аб тым, што і сённяшнія дзеці любяць, чытаюць, ведаюць творчасць Уладзіславы Францаўны, засведчылі ўдзельнікі вечара -- выхаванцы мінскага дзіцячага садка "Пралеска". З якім замілаваннем дзеці чыталі вершы, апрацаваныя Уладзіславай Францаўнай, паказалі інсцэніроўку беларускай казкі "Воўк і заяц".

Вялікая Айчынная вайна назаўсёды адарвала У. Луцэвіч ад любімай працы. З таго трагічнага дня, калі не стала Янкі Купалы, Уладзіслава Францаўна аддае ўсе свае сілы і ўсё жыццё справе ўшанавання памяці беларускага песняра і стварэнню найлепшага яму помніка, якім стаў музей. Справа Купалы была для яе даражэй за ўсё на свеце. Яна працягвала жыць жыццём паэта і, як адзначыў у сваім выступленні народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль, дзякуючы цёці Уладзі, яе намаганням, было сабрана пра Купалу амаль усё, што захавалася ў яго сяброў, знаёмых, родных. Гэта кнігі, пісьмы, фатаграфіі, аўтографы, публіцыстычныя артыкулы, музыка на творы паэта. Яна была ініцыятарам складання бібліяграфіі твораў Купалы, падрыхтоўкі зборніка матэрыялаў пра жыццё і дзейнасць паэта, збору твораў у 6-ці тамах. Усё, што было звязана з імем Янкі Купалы, цікавіла і турбавала руплівага гаспадара музея. Нездарма ў вершы ўкраінскага паэта Тэрэня Масэнкі "Беларускай маці", які ў сваім перакладзе на беларускую мову прачытаў на вечары паэт Пятро Прыходзька, ёсць такія радкі:

**Цёця Уладзя**
**нястомна збірала**
**Кожны аркуш і**
**кожны лісток,**
**З маладосці ў**
**глыбокую сталасць**
**З родным Янкам ішла**
**крок у крок.**

Выступоўцы адзначылі, што за 50 гадоў свайго існавання музей вырас у буйную навукова-асветную ўстанову, стаў сапраўдным помнікам песняру. У экспазіцыйных залах музея рукапісы паэта, дакументы розных гадоў, жывапісныя работы і графічныя лісты -- і ва ўсім гэтым плён самаадданай працы Уладзіславы Францаўны.

У сваім слове лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы пісьменнік Мікола Аўрамчык напомніў, што Уладзіслава Францаўна была нястомнай у прапагандзе Купалавай спадчыны. Колькі ж трэба было мець энергіі, каб выязджаць у розныя куточкі Беларусі, трымаць слова перад самай рознай аўдыторыяй. Яна ніколі не думала пра сябе. І, як вобразна заўважыў М. Калачынскі, "так птушкі паміраюць, як яна, забыўшыся аб стоме, -- у палёце".

Шчырыя словы пра Уладзіславу Францаўну сказалі на вечарыне сын Якуба Коласа Даніла Міцкевіч, жыццё якога прайшло побач з Уладзіславай Францаўнай, у агульных клопатах аб захаванні спадчыны Купалы і Коласа, пісьменнік Уладзімір Юрэвіч, кандыдат філалагічных навук В. Казлова.

Да вечара была падрыхтавана выстава з дакументаў, арыгінальных фотаздымкаў і асабістых рэчаў Уладзіславы Луцэвіч.

На завяршэнне імпрэзы ўдзельнікі вечара выказалі прапанову назваць імем Уладзіславы Францаўны Луцэвіч адзін з дзіцячых садкоў горада Мінска і педвучылішча N 1.

**Марыя ЧАБАТАРЭВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Янка БРЫЛЬ, Мікола АЎРАМЧЫК у музеі на вечарыне.**



маладая дзяўчына, ёй пашчасціла. Адна з нямногіх, яна патрапіла ў трупу тэатра імя Руставелі.

Уважліва перагортваючы старонкі кнігі "Усяго адно жыццё", заўважаю, што аўтарка піша сціпла, больш пра атмасферу тых гадоў, пра іншых майстроў сцэны, чым пра сябе асабіста. А калі і згадвае свой поспех, то шукае важкія аргументы ў пацвярджэнне сваіх слоў. Вось і пра першую сваю вялікую ролю -- зусім крышачку, аддаўшы на чытацкі суд цытату з газетнага артыкула тых часоў (гэта пра ролю Афеліі ў спектаклі "Гамлет"): "Добрая Афелія (Т.Цулукідзе) з малітоўнікам у руках. Прыгожыя яе пластычныя рухі, лірычнае элегічнае гучанне голаса. Т.Цулукідзе паспяхова правяла сцэну вар'яцтва Афеліі". Пра сваю Афелію -- адзін-два абзацы. А пра Катэ Марджанішвілі, выдатнага майстра грузінскай сцэны, некалькі старонак, цэлы раздзел. І ёсць нейкае шкадаванне, што так мала Тамара Георгіеўна расказвае пра сябе. Ужо ў 1934 годзе ёй было прысвоена званне заслужанай артысткі Грузінскай ССР.

І вось у тыя дваццатыя гады ў юнай Тамары, царыцы і прыгажуні Тамары (угледзьцеся ў тагачасныя здымкі Тамары Георгіеўны), пачынаецца вялікая дружба з рэжысёрам Сандра Ахметэлі, які з часам становіцца кіраўніком тэатра імя Руставелі. Але пра акалічнасці сяброўства, кахання можна толькі здагадвацца. Успаміны Тамары Георгіеўны -- хутчэй манаграфія пра нацыянальны грузінскі тэатр дваццатых-трыццатых гадоў, згадкі пра яркіх акцёраў і рэжысёраў. Што ж тычыцца асабістых успамінаў, то прыклад іх -- у наступных развагах на пачатку аднаго з раздзелаў: "Як я жыла і адчувала сябе ў святле хвалюючых тэатральных падзей тых гадоў? Ці патрэбна мне гаварыць пра сябе? Я была маленькай, непрыкметнай часцінкай, нічым не стараючыся вызначыцца на агульным фоне. Многага не разумела. Жыццё яшчэ не абцяжарыла мяне мудрасцю, не навучыла сягаць у сутнасць з'яў.

Так я і жыла. Сціпла і ўсхвалявана. Любіла тэатр і менш за ўсё турбавалася пра сябе.

Мне ніколі не прыходзіла ў галаву ацэньваць дзеі з пункту гледжання асабістай зацікаўленасці. Славалюбствам я ніколі не хварэла. Я не помню, каб мяне калі-небудзь турбавала зайздрасць да старэйшых таварышаў, да іх поспеху, усеагульнага прызнання. Я лічыла, што мне і так выключна пашчасціла сярод маіх равесніц.

Не, я не згубілася ў агульнай масе. Усё далейшае залежала ад маёй працаздольнасці і даравання".

І якія тут могуць быць каментарыі?! У словах гэтых -- стрыжань жыцця, атрыманая ад бацькоў высокая інтэлігентнасць.

...У Тамары і Сандра Ахметэлі нарадзіўся сын, Сандзік. Калі горкая сітуацыя разарвала маладую сям'ю,



дзіця забрала да сябе сям'я Мухадзе -- Рыгор Міхайлавіч і Кацярына Васільеўна.

У 1935 годзе Сандра Ахметэлі выганяюць з тэатра. Месца талентаў паўсюдна займалі прыстасаванцы. Так было ў Грузіі, так было і на Беларусі. А праз некаторы час і яшчэ горшыя падзеі... Глухая лістападаўская ноч назаўжды разлучыла Сандра і Тамару. Цулукідзе пісала свае ўспаміны ў 1971--1976 гадах, выдала іх у 1983 годзе... Таму, відаць, пра многае адкрыта не магла сказаць, не сказала.

Другая палова трыццатых, саракавыя гады прайшлі для Тамары Георгіеўны ў лагеры, на высылцы. Памяняла многія і многія прафесіі. Толькі ў 1943 годзе Цулукідзе змагла вярнуцца да сваёй прафесіі. Актрысе было даручана стварыць перасовачны тэатр лялек для дзяцей сямействаў, эвакуіраваных на поўнач у час вайны. І на гэтай працы было нялёгка. Але душу сагравала тое, што на радзіме, у Грузіі, маці чакаў яе сын. У лістападзе 1946 года Цулукідзе дазволілі паехаць у Тбілісі ў адпачынак. Самым вялікім шчасцем падалася сустрэча з родным сынам, а ў чэрвені 1947-га -- трагедыя: атрымала ў Сыктыўкары тэлеграму з дому. Тэкст страшны і жорсткі нават і для гэтай прызвычаенай да няшчасцяў жанчыны: Сандзік пры смерці. Тэрмінова прыязджай". Чацвёра сутак дабіралася з Сыктыўкара да Тбілісі. Самалётам, пешшу, на грузавіку, цягніком і зноў самалётам... Не паспела. Хлопчыка пахавалі. Што рабілася на сэрцы ў маці -- можна толькі ўявіць.

У хуткім часе зноў -- Сібір. Пайшла працаваць у калгас. Напрыканцы 1952 года -- сустрэча з беларускім пісьменнікам... Сышліся дзве спакутаваныя душы. Вось запіс, датаваны жніўнем 1953-га: "У пяці кіламетрах ад нас, у пасёлку Вараб'ёўка, жыве разам з жонкай Клаўдзіяй Аляксандраўнай некалі знакаміты прафесар-філолаг Валяр'ян Фёдаравіч Пераверзеў. Нядаўна мы ўсе разам, сабраўшыся ў нас, сціпла адзначылі яго сямідзесяцігоддзе.

У нас -- гэта ў мяне і Алеся. Мы з ім купілі старую хібарку, самі яе адрамантавалі і пасяліліся ў ёй караталь свой век, да канца жыцця...

Мы з Алесем жывём дружна, стараючыся ўпрыгожыць жыццё адзін другому. Ён ходзіць на працу ў брыгаду цесляроў, а я турбуюся па гаспадарцы ў хаце і на агародзе. Вяртаючыся пасля доўгага працоўнага дня, хаця і стомлены, Алесь заўсёды ўваходзіць у хату з песняй і жартам на вуснах. Як бы ні шкуматала яго жыццё, ён усё роўна застаецца верным свайму прызванню, застаецца пісьменнікам. Самыя шчаслівыя для яго душы гадзіны -- гэта калі ён сядзіць за пісьмовым сталом, часцей далёка апоўначы".

У другой палове пяцідзесятых Пальчэўскі і Цулукідзе прыехалі на Беларусь. Яны пражылі разам яшчэ больш як два дзесяцігоддзі. Пражылі светла, прыгожа, у працы. Пражылі з глыбокім болем у сэрцы. Яна -- з горыччу ад страты сына. Ён -- пры жывым сыне, які даўным-даўно адмовіўся ад свайго бацькі. Ды што пра гэта казаць. Падумаць пра такое няпроста. А пражыць з гэтым...

Жыццё даецца чалавеку толькі аднойчы. Толькі адно жыццё. У Тамары Георгіеўны і Алеся Восіпавіча яно атрымалася прыгожым і светлым. Хаця ў кожнага з іх было нямала пакут і выпрабаванняў. Ды толькі праз усе іх грузінская актрыса і беларускі пісьменнік прайшлі з годнасцю. Шкада толькі, што не засталося ў іх дастойных спадкаемцаў, здатных захаваць і ўшанаваць памяць, творчую спадчыну слаўных, шчырых Тамары Георгіеўны і Алеся Восіпавіча. Дык мо парупяцца ўдзячныя малодшыя сябры...

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: Тамара ЦУЛУКІДЗЕ ў ролі Ламары ("Ламара").**

# "СВЯТА ВЯЛІЧКА — З ЧЫРВОНЫМ ЯЕЧКАМ"







(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

На вялікім падносе зіхацяць непаўторныя размалёўкі з экзатычнымі птушкамі, раслінамі, жырафамі, кракадзіламі (і гэта так міла!), а таксама з кве-ценню бэзу ў месячным святле, травеньскім мурогам, ёсць на гэтых малёванках і светлая туга, і дасціпны жарт, і шмат чаго яшчэ. Кажуць, у гэтага аўтара 20 тысяч малёванак, і ўсе без паўтораў.

Глядзім далей -- шыкоўны ювелірны ўзор з бісеру, найтанчэйшыя папяровыя ўзоры выцінанак, азёрная трава. Самыя адмысловыя матэрыялы і тэхніка выкарыстаны, каб упрыгожыць галоўны велікодны твор. І кожны з гэтых твораў выпраменьвае неўміручае дабро і радасць -- Свята ж такое. Больш за дваццаць майстроў удзельнічаюць у выставе. Выдатна дапасаваліся тут творы з прыватных калекцыяў спадара Я.Сахуты і спадарынь В.Лабачэўскай і Н.Багдановіч, а таксама творы дзяцей з мастацкай студыі Матвеевай.

Падзівяцца гледачы і на незвычайныя выцінанкі памерам і формаю падобныя да слынных слуцкіх паясоў. Майстра В.Дубінка зрабіў іх гадоў сорак таму, і толькі цяпер яны адкрыліся вачам сучаснікаў.

І.Супрунчык і М.Фей -- разьбяры па дрэву. Іх творы на тэму Вялікадня як найлепш упісаліся ў гэтую выставу. Але асабліва прыцягвае і моцна здзіўляе шматфігурная кампазіцыя "Вялікдзень": апранутыя ў святочныя строі дзецюкі, кабеты, дзеці, кожны з адметным аблічам, трымаюць фарбаваныя яйкі. Самая ж вялікая з гэтых фігур -- постаць гаспадара-селяніна. У белай кашулі, падпяразаны чырвоным пасам, ён з такою цеплынёй і замілаваннем пазірае на сваіх сурodзічаў, на ўвесь свет! І, Божа мілы, як ён падобны на самага знанага сёння беларускага чалавека! Толькі позірк лагаднейшы ды выраз твару прасветлены. І думаеш: вось жа могуць быць цуды. Быў жа калісьці чалавек на імя Саўл, а перамяненне адбылося ў душы ягонай, і стаўся ён Паўлам, з самых ахвярных ахоўнікаў таго, супраць чаго раней апантана змагаўся. І ў гэтае Вялікае Свята, што на двары, яшчэ болей хочацца маліцца за Беларусь, за кіраўнікоў дзяржавы, за нас усіх, каб даў Бог прасвятлення душы, сэрца і розуму.

А што да выставы, то я проста шчаслівы, што трапіў на яе. А ў музей, пастанавіў я сам сабе, буду зазіраць часцей, там ёсць што паглядзець і пра што падумаць. Дарэчы, ягоны адрас: Мінск, К.Маркса, 12. Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.

**Зьміцер КАЛІСТРА.**

**НА ЗДЫМКУ:** экспанаты з выставы.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## ІМЯ КУПЦА ЮЛШЫНА

Лаўрэатам прэміі імя купца Юлшына, якую штогод прысуджае гарадскі краязнаўчы цэнтр за ўклад у прапаганду гістарычнай спадчыны і адраджэнне нацыянальнай культуры, стаў выкладчык Рагачоўскага педагагічнага вучылішча Уладзімір Немізанскі.

Васіль Васільевіч і Варвара Аляксееўна Юлшыны жылі ў Рагачове ў канцы мінулага стагоддзя. У свой час на іх сродкі ў горадзе быў пабудаваны тэатр "Мадэрн", створана рэальнае вучылішча, дзе яны заснавалі 50 прэмій для бедных навучэнцаў, а таксама адкрыта багадзельня для састарэлых.

## СПОРТ

### ЗАДАВОЛІЛІСЯ І ГЭТЫМ

Юнацкая зборная Беларусі па хакею летась заваявала права выступаць у групе мацнейшых каманд свету. Дэбютанты, вядома, не маглі скласці сур'ёзнай канкурэнцыі спартсменам Швецыі, Фінляндыі, Чэхаславакіі на чарговым чэмпіянаце. І таму ставілі задачу -- толькі не апынуцца на апошнім восьмым месцы.

У заключным туры беларускім хакеістам трэба было не прайграць нарвежцам. І наша каманда з гэтай задачай справілася. Тут зафіксавана нічыя -- 4:4. Такім чынам, беларуская каманда і ў наступным годзе будзе выступаць у вышэйшай лізе.

### У СВАЮ СІЛУ

Вось ужо каторы год запар як мужчыны, так і жанчыны Рэспублікі Беларусь удала выступаюць на розных спаборніцтвах у марафонскім бегу.

Сёлета першай адкрыла сезон Мадзіна Біктагірава, якая прыняла ўдзел у традыцыйным Бостанскім забегу. І трэцяе месца беларускі трэба лічыць вельмі высокім.

### НА ПАД'ЁМЕ

Пасля ад'езду вялікай групы гандбалістаў у замежныя клубы некалі грозны мінскі СКА не вельмі радаваў аматараў спорту ў многіх спаборніцтвах. Але трэнер Спартак Мірановіч змог за апошнія гады падрыхтаваць дастойную змену "зоркам". Гэта пацвердзіў міжнародны турнір, які прайшоў у Санкт-Пецярбургу.

Спачатку ў сваёй групе мінчане лёгка перамаглі каманду "Лесгафтавец" (С.-Пецярбург) -- 47:19, пасля не пакінулі ніякіх шанцаў маскоўскім армейцам -- 33:25 і занялі першае месца.

І толькі ў галоўным фінале за ганаровы прыз уступілі ўсяго два мячы "Няве" (С.-Пецярбург) -- 29:31.

Цяпер СКА прыме ўдзел у першынстве каманд Балтыйскай лігі. Цікава, што каманду чакае добрае папаўненне. У гэтых спаборніцтвах пажадалі прыняць удзел і легіянеры экстра-класа: Аляксандр Тучкін, М. Якімовіч, Аляксандр Маліноўскі і іншыя.

### БЕЗ ПАДТРЫМКІ

Як кажуць, адзін у полі не воін. На розыгрышы Кубка Еўропы па скачках у ваду, што праходзіў у Страсбургу, мы маглі разлічваць толькі на мінчаніна Андрэя Семенюка, спартсмена вопытнага, які не раз перамагаў у многіх турнірах.

І нашы надзеі спраўдзіліся. У скачках з трохметровага трампліна ён змог заняць трэцяе месца.

**Вольга КАНОЙКА.**




"Мікалай ГАЛАДЗЕД". Шарж Янкі КАШКЕЛЯ.

**Публікацыя Л. НАЛІВАЙКІ.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1183. Падпісана да друку 26. 4.1995 г.

005